ISSN 1991–7155
9 771991 715006 19038

Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

20 верасня 2019 года №38 (1273) 18+

# Каманда з Астраўца выйграла нацыянальную лігу па баскетболе 3x3



старонкі 18-19

На фота: Арцём Казлоў у атацы. Фота vk.com/palova_3x3.

## Каля вілейскага вакзала адкапалі драўляную пабудову

старонка 2

## Вілейчукі сабралі больш за паўтары тысячы подпісаў супраць платнага ўезду на могілкі

старонка 3

## Сяляне сумавалі не па Польшчы, а па сваёй зямлі. Што трэба ведаць пра 17 верасня

старонка 21

## Здымаць наяўныя грошы з картак можна будзе ў касах магазінаў

Чакаецца, што ў хуткім часе беларусы змогуць здымаць грошы па картках у касах крамаў і арганізацый сэрвісу, піша tut.by.

Спачатку такую магчымасць хочуць распаўсюдзіць на невялікія населеныя пункты, а праз два гады і на ўсю тэрыторыю краіны. Пра гэта гаворыцца ў праекце пастановы праўлення Нацбанка Беларусі.

Згодна з праектам дакумента, ад 1 студзеня 2020 года наяўныя змогуць выдаваць трымальнікам банкаўскіх плацежных картак у сельскай мясцовасці, малых гарадах, тэрыторыях за населенымі пунктамі, а праз два гады – ва ўсёй Беларусі. Сума адной аперацыі выдачы наяўных не павінна перавышаць 10 базавых велічынь – 255 рублёў. Пры гэтым чалавеку трэба будзе разлічыцца картай за тавар або паслугу.

**Паводле tut.by.**

## У Маладзечне гатовыя падтрымаць прадпрымальнікаў

А таксама развіваць бізнес-супольнасць. Маладзечанскія актывісты сумесна з партнёрамі з Мінска – Офісам еўрапейскай экспертызы і камунікацыі – збіраюцца запусціць новую праграму, якая павінна падтрымаць прадпрымальнікаў і развіваць бізнес-супольнасць Маладзечна. Для запуску праграмы трэба ацаніць патрэбы малога і сярэдняга бізнесу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пешаходам забароняць карыстацца гаджэтамі пры перасячэнні дарогі

У новай рэдакцыі Правілаў дарожнага руху пешаходам забароняць карыстацца гаджэтамі, калі яны перасякаюць дарогу. Аб гэтым belta.by расказаў старшы інспектар па асаблівых даручэннях УДАІ МУС **Аляксандр Шаўчэнка**.

Неабходнасць у змене заканадаўства з'явілася ў тым ліку з-за развіцця тэхналогій.

Згодна з абноўленымі ПДР, будзе забаронена «пры выхадзе на праезную частку і руху па ёй здзяйсняць дзеянні, што пагражаюць бяспецы дарожнага руху».

Як патлумачыў Аляксандр Шаўчэнка, гэта азначае, што, перасякаючы дарогу, нельга будзе ісці ў навушніках, у капюшоне, глядзець у тэлефон, паколькі гэта адцягвае ўвагу пешахода.

**Паводле belta.by.**

## Перапіс насельніцтва можна прайсці праз інтэрнэт

На сайце перапісу (цяпер па адрасах **перепись.бел** або **census.by** запушчаны промасайт) будзе размешчаная прэзентацыя, дзе будуць пазначаныя паслядоўнасць дзеянняў і пытанні, якія могуць паўстаць у карыстальнікаў.

Для правядзення перапісу па інтэрнэце выкарыстоўваецца рэсурс міжбанкаўскай сістэмы ідэнтыфікацыі (МСІ). Прычым скарыстацца ім могуць як зарэгістраваныя, так і незарэгістраваныя карыстальнікі. Першыя – калі зойдуць з дапамогай логіна і пароля, іншыя – праз СМС-код (калі пакажуць свой ідэнтыфікацыйны нумар і нумар мабільнага тэлефона). Зрэшты, паколькі другі спосаб больш хуткі, скарыстацца такім аднаразовым паролем можа і зарэгістраваны карыстальнік.

Калі чалавек пройдзе працэдуру ўваходу, ён атрымае папярэдне запоўнены перапісны ліст, дзе ўжо будуць адзначаныя: прозвішча, імя, імя па бацьку, асабісты нумар, дата і месца нараджэння.

Застанецца дапоўніць інфармацыяй, якая адсутнічае.

**Паводле belta.by.**

## Выстава смаргонскага фатографа будзе працаваць у Мінску

Фатографы **Эдуард Клуйша** са Смаргоні сумесна з **Андрэем Ганчаровым** з Барысава адкрыюць фотавыставу ў Мінску. Выстава будзе працаваць ад 17 да 29 верасня ў гарадской мастацкай галерэі **Леаніда Шчамялёва**.

Эдуарду Клуйшу 23 гады. Ён вядзе свой фотагурток у Смаргоні, у якім вучыць дзяцей і дарослых азам фатаграфіі. У 2012 годзе Эдуард перамог у рэспубліканскім фотаконкурсе «4 383 дні дзяцінства. Дзіцячы погляд».

Акрамя фатаграфіі хлопца хвалююць праблемы людзей з інваліднасцю. Менавіта таму ён распрацаваў і рэалізуе мясцовую ініцыятыву «Нам па дарозе», якая накіраваная на пашырэнне магчымасцяў па працаўладкаванні і самазанятасці людзей з інваліднасцю.

**Паводле belta.by.**


Фота Дзяніса КАНЕЦКАГА.

Фрагменты драўлянага бруса.

# Каля Вілейскага аўтавакзала адкапалі драўляную пабудову

## Што гэта было – невядома

**На Вілейскім аўтавакзале пры капанні траншэі пад пракладку труб, на паўметровай глыбіні, знайшлі склеп. Сцены гэтага склепа былі зробленыя з драўлянага бруса. Брус ужо добра згніў, але фрагменты засталіся цэлыя.**

Старшыня вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі** распавёў, што 11 верасня праводзілі будаўнічыя работы недалёка ад аўтавакзала. Там ставілі дрэнажны калодзеж, і ў гэтым месцы будаўнікі наткнуліся на такую знаходку:

– Я не сустракаў, каб з такога бруса рабілі склепы. Я хацеў, каб спецыялісты паглядзелі, расказалі, што гэта такое: зямлянка, склеп ці нешта іншае.

Гісторыкі і іншыя спецыялісты не агледзелі знаходку. Канецкі кажа, што самае цікавае тое, як склеп быў складзены.

– Зрабілі гэты склеп добра, а кут з часанай драўніны. Падобна на елку або хвою. Здаецца, што сам склеп быў падзелены на пакоі.

Цяпер траншэю засыпалі.

**Настасся УТКІНА.**


Фотаздымкі забяспечаны Максімам ЦІХАНАВЫМ.

Рамантуюць дарогу ў вілейскім двары.

# На Чапаева і Талстога пачалі рамантаваць дарогу

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміў актывіст віляйчук Максім Ціханаў.**

Мы неаднаразова пісалі пра тое, што жыхары двара дамоў 55 і 59 па вуліцы Талстога і дома 72 незадаволеныя станам дарогі побач са сваімі дамамі.

Тады, у жніўні 2018 года, віляйчане сабралі подпісы за рамонт дарогі і перадалі ліст у Вілейскі райвыканкам.

У хуткім часе заяўнікі атрымалі адказ, што супрацоўнікі райвыканкама і ЖКГ выехалі на ўказанае месца і агледзелі ўчасткі дарогі. Спецыялісты заўважылі толькі нязначныя ямкі на асфальце.

Ямачны рамонт на гэтым участку праводзілі ў 2017. Пачалі рамантаваць тратуар і пад'язныя шляхі да дома №72 на Чапаева, замянілі 10 метраў разбітага бардзюра.

Астатнія змены былі магчымыя толькі падчас капітальнага рамонту. А летась такі рамонт не быў запланаваны.

**Тады пад кіраўніцтвам жыхара двара Максіма Ціханава вілейчукі напісалі шмат зваротаў і скаргаў у розныя інстанцыі: Мінаблвыканкам, Камітэт дзяржкантролю, Адміністрацыю Прэзідэнта.**

Звароты з вышэйшых інстанцый перанакіравалі ў ніжэйшыя. З Камітэта дзяржкантролю паведамілі, што пытанне разгледзелі. Нават выязджалі на месца 11 студзеня.



Але тады камісія не ўбачыла крытычнага стану дарогі, ямачнасці праезнай часткі і тратуараў у дварах.

Аглядалі дарогу зімой. Ацаніць праблему перашкаджала снежнае покрыва. Камітэт дзяржкантролю даручыў ЖКГ і Вілейскаму райвыканкаму агледзець праблемны ўчастак дарогі не пазней за красавік.

Перапіска цягнулася паўтара года.

**Днямі на Чапаева і Талстога з'явілася тэхніка і дарогу ўсё ж пачалі рамантаваць.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.09 | 19.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0845 | **2.0580** |
| Еўра | 2.2996 | **2.2750** |
| Злоты, 10 | 5.3001 | **5.2400** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1880 | **3.1945** |
| Грыўня, 100 | 8.3496 | **8.3463** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 11.09 | 18.09 |
| Еўра | 2.2800/2.3150 | **2.2000/2.2900** |
| Долар ЗША | 2.0700/2.0930 | **2.0300/2.0750** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 11.09 | 18.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,50 | **7,30** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Лісічкі, 500 мл | 1,50 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Перац, 1 кг | 0,75 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,50** |
| Брусніцы, 500 мл | 2,00 | **1,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,70 | **3,40** |
| Дыня, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Кавун, 1 кг | 0,49 | **0,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Персік, 1 кг | 3,90 | **3,40** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,30 | **2,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Сабралі 1 501 подпіс за адмену платнага ўезду на могілкі

ВІЛЕЙКА

**Некалькі дзён актывісты з Вілейкі збіралі подпісы гараджан, якія супраць платнага ўезду на могілкі.**

На вечар 15 верасня падпісаўся 1 501 чалавек.

Нагадаем, што ў чэрвені Вілейскі райвыканкам прыняў рашэнне, згодна з якім трэба плаціць за ўезд на могілкі Вілейшчыны на легкавых і грузавых машынах.

У жніўні на сесіі Савета дэпутатаў вырашылі не адмяняць платны ўезд.

У пачатку верасня вілейскія актывісты пачалі на гарадскім рынку збіраць подпісы вілейчукоў, якія супраць гэтага рашэння.

У выніку атрымаўся 1 501 подпіс.

– Пададзім сабраныя подпісы ў Вілейскі райвыканкам і Савет дэпутатаў, – расказаў карэспандэнту віляйчук **Аляксей Сюдак**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пешаходным пераходзе збілі пенсіянерку

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 16 верасня ўвечары каля вілейскай школы №1.

Жанчына ішла па пешаходным пераходзе. Яна пераходзіла вуліцу Чапаева. У гэты час на яе наехала машына. За рулём быў 19-гадовы кіроўца, паведамляюць у Вілейскай ДАІ.

70-гадовую пацярпелую з ранамі і сінякамі даставілі ў Вілейскую ЦРБ.

Міліцыя праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Высвятляюць абставіны смерці электраманцёра з Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

13 верасня на Мазырскім участку буравых работ філіяла «Маладзечанскае ўпраўленне буравых работ ААТ «Газпромтрансгаз Беларусь» пры правядзенні работ разарваўся трос, які ўтрымлівае жалезабетонную апору высакавольтнай лініі.

Апора ўпала на электраманцёра. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў 56-гадовы мужчына памёр на месцы здарэння.

Мазырскі раённы аддзел СК устанаўлівае абставіны яго гібелі. Апытаныя службовыя асобы і работнікі прадпрыемства. Канфіскаваная дакументацыя, у тым ліку якая рэгламентуе парадак вытворчасці прац. Прызначаныя неабходныя даследаванні для вызначэння прычыны разрыву троса.

Да матэрыялаў праверкі будзе прыкладзенае заключэнне спецыяльнага расследавання выпадку, які праводзіцца Мазырскім міжрайаддзелам абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы.

**Паводле СК Рэспублікі Беларусь.**

## П'яны мужчына замкнуўся ў чужой машыне

ВІЛЕЙКА

Жыхар Вілейкі працуе за горадам. На мінулым тыдні мужчына вяртаўся з працы дадому, выпіў, але, не даехаўшы да дома, вышаў у Ізбіне, каб пагутарыць з людзьмі.

У пошуках суразмоўцы ён спрабаваў увайсці ў некалькі двароў. Але брамкі былі зачыненыя. Нарэшце, у адзін з двароў увайшоў. Там жыве шматдзетная сям'я. Спачатку віляйчук гутарыў з малодшым гаспадара дома, а потым прапанаваў дапамогу. Калі на ганак выйшаў муж, мужчына схаваўся ў чужой машыне і замкнуўся ў салоне. На мірныя ўгаворы выйсці з аўтамабіля мужчына не адрэагаваў і выйшаў з салона толькі пасля прыбыцця міліцыі.

У дачыненні да віляйчаніна складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле 17.1 «Дробнае хуліганства» Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Мужчына ўжо заплаціў штраф. На раніцу пасля інцыдэнту растлумачыў, што не памятае пра тое, што адбывалася.

За дробнае хуліганства мужчына атрымаў дзве базавыя штрафу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Крэве згарэў аўтамабіль

СМАРГОНЬ

Пра пажар паведамілі 16 верасня каля 11:30.

Гарэла машына «Аўдзі-100» 1983 года выпуску.

Агонь яе цалкам знішчыў. Папярэдняя прычына – кароткае замыканне электраправодкі.

**Паводле МНС.**

## У пенсіянеркі канфіскавалі амаль 50 літраў самагонкі

АШМЯНЫ

Ашмянскія міліцыянеры канфіскавалі амаль пяцьдзясят літраў самагонкі ў 71-гадовай пенсіянеркі.

Супрацоўнікі міліцыі атрымалі інфармацыю, што жанчына захоўвае ў сябе па месцы жыхарства самагонку. У выніку іх здагадкі пацвердзіліся. Гаспадыня жылля заявіла, што ўвесь напой мела намер выкарыстоўваць выключна ў асабістых мэтах.

Раней жанчына больш за дзесяць разоў прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за рэалізацыю самагонкі.

**Паводле УУС Гродна.**

## Трактар загарэўся на полі

Здарэнне адбылося 10 верасня каля 12:00 у вёсцы Воўчына Занарацкага сельсавета.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, то ўбачылі, што на полі гарыць трактар.

Стала вядома, што ён ехаў па полі мясцовай гаспадаркі і загарэўся.

Як расказала карэспандэнту інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**, агонь цалкам знішчыў трактар. Прычыну высвятляюць. Людзі не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Фота 1.bp.blogspot.com.

Для заняткаў прастытуцыяй фігурант абіраў дзяўчат з малазабяспечаных сямей.

# Мужчына прапаноўваў дзяўчатам пераезд у Ізраіль, каб займацца прастытуцыяй

ВІЛЕЙКА

**Ад чэрвеня 2017 да ліпеня 2018 года ў Мінску і Вілейцы мужчына шукаў малазабяспечаных дзяўчат праз сайты знаёмстваў, паведаміла афіцыйны прадстаўнік СК Юлія Ганчарова.**

Мужчына прапаноўваў дзяўчатам на сістэматычнай аснове аказваць за матэрыяльную ўзнагароду паслугі сэксуальнага характару на тэрыторыі Ізраіля.

Пасля згоды дзяўчат на выезд з краіны мужчына афармляў для іх запрашэнне, набываў праз іншых асоб на тэрыторыі Ізраіля авіябілеты да месца прызначэння, інструктаваў, як прайсці пагранічны кантроль у аэрапорце Тэль-Авіва, каб не выклікаць падазрэнняў. Пасля гэтага ён атрымліваў матэрыяльную ўзнагароду за дзяўчат.

Па прыбыцці дзяўчат у Тэль-Авіў, іх сустракалі ў аэрапорце, адвозілі і размяшчалі ў найманых кватэрах. Усяго было ўстаноўлена сем дзяўчат.

Таксама паліцыя Ізраіля выявіла яшчэ трох грамадзян Ізраіля, якія дапамагалі мужчыну ў ажыццяўленні незаконнай дзейнасці. Затрыманне тых трох у Ізраілі і 58-гадовага мужчыны, які знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі, праводзілася адначасова.

**Настасся УТКІНА.**

## На Крынічнай нехта сарваў відэакамеры. Міліцыя шукае відавочцаў

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне на вуліцы Крынічнай на пад'ездах жылых дамоў невядомыя пашкодзілі камеры вонкавага відэаназірання.

Пра гэта жыхары шматпавярховак паведамілі раніцай 31 жніўня. На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група.

Устанавілі, што інцыдэнт адбыўся ў ноч з 30 на 31 жніўня ад 00:30 да 2:30.

Невядомыя хуліганы сарвалі дзве камеры з дамоў №41 і №43, паведамілі карэспандэнту ў прэс-службе Маладзечанскага РАУС.

Міліцыя ўстанавіла асоб, якія маюць дачыненне да супрацьпраўных дзеянняў.

Па дадзеным факце праводзяць праверку.

Маладзечанскі РАУС просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра маладых людзей на відэакадрах, паведаміць па нумары: (8-025)768-44-09, (8-176)77-16-56 (дзяжурная часць), 102, альбо на адрас: Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.

Ананімнасць і канфідэнцыяльнасць гарантуюць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Паляўнічы незаконна здабыў аленя

АСТРАВЕЦ

У мінулы чацвер, 12 верасня, супрацоўнікі Гродзенскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету праверылі мужчыну, які паляваў непадалёку ад вёскі Жукойні Астравецкага раёна разам з дырэктарам установы «Астравецкая РОС» РГОО «БООР».

Падчас палявання яны забілі аленя. Пры праверцы дакументаў мужчыны ўстанавілі, што тэрмін дзеяння пасведчання на права палявання ў яго скончыўся ў красавіку 2019 года.

Такім чынам, алень быў здабыты незаконна – без належнага дазволу. Шкоду навакольнаму асяроддзю ацэньваюць у 300 базавых велічынь, або 7 650 рублёў.

На месца здарэння была выклікана следча-аператыўная група Астравецкага РАУС, якая канфіскавала дзве паляўнічыя стрэльбы і тушу аленя.

Мужчыну могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці па частцы чацвертай артыкула 282 КК Рэспублікі Беларусь. Артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да шасці гадоў.

**Паводле grodnonews.by.**

## У лабавым ДТЗ сур'ёзна пацярпела жанчына

АШМЯНЫ

У Ашмянскім раёне пасажырка атрымала сур'ёзныя траўмы ў лабавым сутыкненні аўтамабіляў.

У суботу, 14 верасня, каля 9 раніцы кіроўца «Фольксвагена» рухаўся па аўтадарозе Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі. Пры здзяйсненні павароту налева ў бок вёскі Будзёнаўка не саступіў дарогу сустрэчнаму аўтамабілю «Сітраен», якім кіраваў 22-гадовы хлопец. У выніку – лабавое сутыкненне.

Пенсіянерка, якая ехала ў аўтамабілі «Сітраен» на пярэднім сядзенні, атрымала цялесныя траўмы: страсенне мазгоў, перелам рабра. 72-гадовую пацярпелую шпіталізавалі.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Паводле ДАІ Гродна.**

# Выйшла кніга Алеся Раткевіча «Па другі бок мяжы»

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**Пазаштатны аўтар і сябар «Рэгіянальнай газеты» Алесь Раткевіч выдаў кнігу «Па другі бок мяжы».**

У кнізе – краязнаўчыя артыкулы, дзе апісваецца гісторыя, невядомая шырокаму колу грамадства. У цэнтры ўвагі аўтара – Лагойшчына і Вілейшчына.

**– Падзеі, пра якія я пішу ў кнізе, ніколі не ўключаліся ў школьную праграму навучання.**

У артыкулах – не вельмі прыемныя гістарычныя звесткі, якія не адпавядаюць мінулай ды і сённяшняй дзяржаўнай ідэалогіі.

Аўтар кнігі намагаецца абнародаваць невялікую, галоўным чынам, трагічную частку вялікай гісторыі Лагойшчыны і Вілейшчыны. На думку аўтара, гэтыя дзве адміністрацыйныя адзінкі спрадвеку маюць агульны лёс. Яны кожны раз траплялі пад розныя пераўтварэнні, падзелы і аб'яднанні, разам пакутавалі ад захопніцкіх войнаў.

**У кнізе згадваюцца падзеі, пачынаючы ад 16 стагоддзя і заканчваючы часам пасля Другой сусветнай вайны.**

Аўтар выкарыстоўваў звесткі з кніг «Памяць» Вілейскага, Лагойскага і Маладзечанскага раёнаў, «Латыгальскі летапіс» **Аляксандра Плавінскага**, апублікаваныя ўспаміны.

Але больш увагі нададзена жывым архівам – непасрэдным сведкам тых трагічных часоў. Гэтыя людзі прайшлі праз усе выпрабаванні рэпрэсій і вайны. Але яны выжылі, каб распавесці пра свой боль і данесці нам праўду пра мінулае.

**Аўтар не пакінуў без увагі той перыяд нашай гісторыі, які датычыцца 1939-1941 гадоў. Гэта час-загадка, пра які савецкая ідэалогія намагалася замоўчваць.**

Некаторыя артыкулы з кнігі Алеся Раткевіча друкаваліся ў ранейшых нумарах «Рэгіянальнай газеты».

**Аддзел інфармацыі.**




## Калі вы плаціце падатак на нерухомасць і на зямлю

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне нагадвае, што неабходна выплаціць не пазней за 15 лістапада падатак на нерухомасць і зямельны падатак.

Гэта тычыцца гаспадароў індывідуальных дамоў, двух або больш жылых памяшканняў у шматкватэрных і блакіраваных дамах, надворных пабудоў, гаражоў, іншых будынкаў, машынамесцаў, зямельных участкаў, прынятых у спадчыну, атрыманых ва ўласнасць, пажыццёвае спадчыннае валоданне або карыстанне.

Калі падаткі добраахвотна не выплаціць у бюджэт, іх спаганяюць у прымусовым парадку і налічваюць пеню за кожны каляндарны дзень пратэрміноўкі.

Падрабязную інфармацыю вы можаце атрымаць, калі звернецеся ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах па месцы знаходжання маёмасці.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Беларускія энергетыкі спаборнічалі ў Маладзечне

**На мінулым тыдні прайшлі спаборніцтвы на званне лепшага па прафесіі сярод работнікаў электрастанцый высокага і звышкрытычнага ціску на базе філіяла Маладзечанскіх электрычных сетак. Спаборнічалі лепшыя брыгады з Беларусі. Усяго ўдзельнічалі прадстаўнікі 14 найбуйнейшых электрастанцый краіны.**



Удзельнік каманды Гомельскай ЦЭЦ на этапе тушэння пажару на электраўстаноўцы.

У панядзелак і аўторак работнікі электрасетак заязджалі ў гасцініцы, знаёміліся з палігонам, дзе наступныя два дні змагаліся паміж брыгадамі, правялі лёсаванне. Энергетыкі пачалі афіцыйныя спаборніцтвы ў сераду, 11 верасня. Перад стартам прывітальнае слова ўзяў намеснік галоўнага інжынера ДВА «Белэнерга» **Джафер Меметаў**. Ён адзначыў важнасць і значнасць спаборніцтваў. На адкрыцці таксама прысутнічалі кіраўнікі РУП «Мінскэнерга» і філіяла Маладзечанскіх электрычных сетак.

### Відовішчныя і патрэбныя спаборніцтвы

Заданні былі розныя, але ўсе яны былі накіраваныя на паляпшэнне прафесійнага майстэрства энергетыкаў. Работнікі беларускіх станцый правяралі тэарэтычныя веды ў камп'ютарных класах, аказвалі медыцынскую дапамогу пацярпелым, паказвалі падрыхтоўку і эфектыўную працу на сваіх месцах.

На кожным з этапаў знаходзіліся суддзі, якія кантралявалі працэс выканання заданняў і правяралі веды энергетыкаў. Суддзі **Андрэй Папоў** і **Сяргей Давыдоўскі**, якія знаходзіліся на ўчастку з заданнем тушэння пажару ў электраўстаноўках, кажуць, што іх этап адзін з самых відовішчных.

– Наш этап самы відовішчны, але трэба разумець, што кожнае заданне на спаборніцтвах важнае для энергетыкаў. Яны праходзяць этапы сур'ёзна, таму што ад іх падрыхтоўкі будзе залежаць вельмі многае ў іх працы на станцыях, – удакладніў Андрэй Папоў.

Сяргей Давыдоўскі кажа, што ад энергетыкаў залежыць многае, таму падрыхтоўка і гатоўнасць да любых экстрэмальных сітуацый мае вялікае значэнне:

– Энергетыкі літаральна ходзяць па лязе нажа. Мы адказваем на станцыях за нармальнае функцыянаванне шматлікіх сістэм, таму ў любой сітуацыі важная выразная і хуткая рэакцыя работнікаў. Пры любой праблеме мы павінны рэагаваць і не зрываць працу людзей і іншых прадпрыемстваў. Гэтыя спаборніцтвы правяраюць падрыхтоўку энергетыкаў.

### Гомельскія энергетыкі сёлета сталі лепшымі

Пераможцам спаборніцтваў стала каманда філіяла «Гомельская ЦЭЦ-2». Другое месца занялі энергетыкі «Лукомльскай ГРЭС» РУП «Віцебскэнерга», а апошнімі ў тройцы пераможцаў была каманда філіяла «Мінская ЦЭЦ-4» РУП «Мінскэнерга».

Разам з каманднымі вынікамі вызначалі лепшых у індывідуальных заліках. Сярод машыністаў катлоў першае месца заняў **Уладзіслаў Ключынскі** – прадстаўнік Гомельскай ЦЭЦ-2. На другім месцы – **Іван Кралоў** (Бярозаўская ГРЭС), а трэці радок заняў **Іван Дамшэль** з Гродзенскай ЦЭЦ-2.

Лепшым машыністам турбін стаў **Канстанцін Ляшчына** з Лукомльскай ГРЭС. **Аляксей Патапаў** – прадстаўнік Мінскай ЦЭЦ-4 – узяў другое месца. **Дзяніс Літвінаў** (Гомельская ЦЭЦ-2) заняў трэцяе месца.

**Аляксей Русавук** з Мазырскай ЦЭЦ і **Васіль Махроў** з Лукомльская ГРЭС падзялілі між сабой першае месца. А **Алег Верамейчык** (Мінская ЦЭЦ-5) заняў трэці радок.

**Васіліна КІРАВА.**
**Фота аўтара.**

# Віляйчанка сустракала Лукашэнку з верталёта і вітала Румаса

ВІЛЕЙКА

**Прыгажуня ў нацыянальным строі з караваем вітала прэм'ер-міністра Сяргея Румаса. А яшчэ сустракала з верталёта Аляксандра Лукашэнку. Дзяўчыну завуць Ксенія Камінская, і яна родам з Вілейкі.**



Ксенія сустракае Сяргея Румаса.

Фота са старонкі ў сацсетках.

## Адкрывала паліклініку, батутны цэнтр і Дошку гонару

А пачалося ўсё з таго, што навучэнку ў Віцебскім дзяржаўным каледжы мастацтваў заўважылі з-за яе высокага росту і яркай знешнасці. Перыядычна бралі на розныя мерапрыемствы: узнагароджваць пераможцаў або сустракаць гасцей.

Першы адказны выхад быў на мерапрыемстве «Чалавек года Віцебшчыны». Ксенія ў народным строі падносіла дыплом старшыні Віцебскага аблвыканкама **Мікалаю Шарснёву**. Далей – болей. Штогадовыя «Дажынкі», адкрыццё паліклінікі, батутнага цэнтра і Дошкі гонару…

## Палюбіла Віцебск

А між іншым, некалі дзяўчына хацела стаць міліцыянерам.

Ад нараджэння Ксюша з бацькамі жыла ў Снежкаве. Кажа, з дзяцінства шмат чым захаплялася: малявала, пісала вершы, вучылася ў музычнай школе, займалася баскетболам і валейболам, паспяхова ўдзельнічала ў абласных і рэспубліканскіх конкурсах.

Калі скончыла дзевяць класаў пятай школы, паспрабавала паступіць у кадэцкае вучылішча ў Віцебску. Не атрымалася. Хаця прафесія міліцыянера падабаецца Ксюшы і цяпер.

Калі скончыла дзясяты, убачыла ў інтэрнэце сайт Віцебскага дзяржаўнага каледжа культуры, а там спецыяльнасць «акцёрскае майстэрства».

– Я марыла стаць актрысай, але нікому пра гэта не казала, баялася, што не зразумеюць, – прыгадвае дзяўчына. – Увечары расказала пра каледж маме. І яна спытала «Ты хочаш туды паступіць? Ты ж хацела быць міліцыянерам?».

Ксюша адказала, што падзялілася з мамай проста так, што пойдзе, як і планавала ў адзінаццаты клас. Але ж мамы заўсёды ўсё адчуваюць, заўважае дзяўчына.

У выніку Ксюша паступіла ў каледж на «акцёрскае майстэрства».

– Ужо трэці год, прыходзячы ў каледж, дзе мне вельмі падабаецца, я ўсміхаюся і з удзячнасцю згадваю сваіх бацькоў, якія тады ўсё адчулі і падтрымалі мяне.

Да паступлення прыйшлося рыхтавацца хутка: часу мала, а да экзаменаў трэба было падрыхтаваць верш, байку, прозу, песню, танец і сыграць на музычным інструменце. Тады Ксеніі дапамог падрыхтавацца вілейскі педагог і кампазітар **Аляксандр Высоцкі**. Увесь рэпертуар падрыхтавалі літаральна за дзень.

– Падчас паступлення абітурыенты расказвалі, як доўга рыхтаваліся, як займаліся ў тэатральных студыях. Гэта дадавала страху і няўпэўненасці. Я вельмі баялася не паступіць. Але здала экзамен на дзве дзясяткі. У спісах залічаных я была першай. Тады і зразумела, што гэта – лёс, – прыгадвае Ксюша.

Дзяўчына прызнаецца, што Віцебск палюбіла адразу. Яшчэ тады, калі спрабавала паступаць у кадэцкае:

– Горад вельмі прыгожы, дастаткова вялікі і, у гэты ж час, спакойны. Так, далёка ад дома. Не атрымоўваецца часта прыязджаць у Вілейку. Але я прывыкла.

У каледжы віляйчанка вывучае майстэрства акцёра і рэжысуру, сцэнічную гаворку і рух, фехтаванне, харэаграфію, грым, пастаноўку голасу, ігру на музінструменце, гісторыю тэатра.

## Былі фотавобразы Лары Крофт і нявесты

Калі на месяц на канікулах Ксюша ўсё ж прыязджае да бацькоў, паспявае вырашыць асабістыя справы, пагуляць па родным горадзе. А яшчэ зладзіць фотасесіі з вілейскім фатографам **Міхасём Куляшом**.

– З Міхасём мы пазнаёміліся на фотасесіі, якую я выйграла падчас розыгрышу ў сацсетках. Тады і адчулі ўзаемнае жаданне працаваць разам і ажыццяўляць нашы ідэі. Працуем ужо чатыры гады. Разам прыдумваем вобраз, збіраем рэквізіт, адзенне, выбіраем месцы для фотасесій. Мы спрабавалі розныя вобразы: ад нявесты да гераіні камп'ютарных гульняў Лары Крофт. Былі сесіі і ў дождж, і ў снег. Кожная асаблівая.



Ксенія на фотаздымку вілейскага фатографа Міхаіла Куляша.

## Румас усміхаўся, Лукашэнка разглядаў строй і макіяж

Сёння ў Віцебску ні адно важнае афіцыйнае мерапрыемства не абыходзіцца без віляйчанкі. Дзе старшыня Віцебскага аблвыканкама, там – і я, кажа Ксюша.

Неяк сустракала з верталёта Аляксандра Лукашэнку:

– Гэта быў двайны адбор: спачатку ў каледжы, а пасля – прадстаўнікамі са сталіцы. Я павінна была сказаць тэкст прывітання і ўручыць кветкі. Далі спецыяльны народны касцюм. Фарбавалася так, як сказалі: лёгкі макіяж, абавязкова – румянец і ніякіх яркіх вуснаў. Галаўны ўбор прыкалолі вялікай колькасцю заколак, каб яго не знесла ветрам ад верталёта, – кажа дзяўчына.

Увесь вечар яна praгаворвала тэкст і хвалявалася.

**Каб неяк супакоіцца, Ксенія настройвала сябе на тое, што Аляксандр Лукашэнка – такі ж чалавек, як і ўсе.**

– Задача была такая: калі Лукашэнка будзе спускацца з верталёта, падысці да яго не бліжэй за два метры і прывітаць. Я так і зрабіла. Але ён сам падышоў бліжэй. Разглядаў, як я апранутая і нафарбаваная. Пасля прывітальных слоў я ўручыла яму букет. Аляксандр Лукашэнка таксама падарыў мне кветкі ў адказ.

Запомнілася і нядаўняя сустрэча з прэм'ер-міністрам **Сяргеем Румасам**. Задача была тая ж – прывітальныя словы і кветкі. Сустрэча запомнілася Ксеніі тым, што Румас шмат усміхаўся, пацалаваў каравай, а кавалачак адламаў і памачаў у соль.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Беларусь 1

**6.25** Існасць.

**6.50, 21.45** Х/ф **«СИЛА ОБСТОЯТЕЛЬСТВ».**

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** Маршрут построен.

**9.45** Здоровье.

**10.40** Дача [СТ].

**11.15, 12.10, 13.15** Х/ф **«ЗАКЛЯТЫЕ ПОДРУГИ».**

**15.15** Краіна.

**15.45** «Все за стол!».

**16.35** Х/ф **«ДЕРЖИ МЕНЯ ЗА РУКУ».**

**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.

**21.00** Панорама.

**1.10** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**7.50** Т/с **«ЛЮБИМЦЫ».**

**9.20, 21.05** Телебарометр.

**9.25** Х/ф **«КАК ПРИРУЧИТЬ ДРАКОНА».**

**11.00** Кто я?

**11.25** Копейка в копейку.

**12.00** Камень, ножницы, бумага.

**12.35** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.

**13.30** «Король десертов».

**15.10** Х/ф **«БЛОНДИНКА В ЭФИРЕ».**

**16.45** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

**18.40** Х/ф **«ДИВЕРГЕНТ».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** «Шерлоки». Детективное шоу.

**22.10** Х/ф **«СОУЧАСТНИК».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.05, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.25, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Выканальніцкае майстэрства ў жанры казкавай прозы Лідзіі Міхайлаўны Цыбульскай (аграгарадок Магільна, Уздзенскі раён, Мінская вобласць).

**10.30** «Беларуская кухня». Малочны суп з агароднінай.

**11.00** «Народны майстар». Ігар Еўсціхаў.

**11.25** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу. Народны фальклорны калектыў «Прасніца» (аграгарадок Іванск, Чашніцкі раён, Віцебская вобласць).

**12.20** «Новыя прыгоды няўлоўных». Мастацкі фільм [СТ].

**13.40** «Навукаманія».

**14.30** «Службы два таварышы». Мастацкі фільм [СТ].

**16.05** «Дзесяць фатаграфій». Веніямін Смехаў.

**16.45** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**17.25** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Скарбы Агры» [СТ].

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – архівіст, філолаг, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вялікая сям'я». Мастацкі фільм [СТ].

**22.45** Т/ф **«ЖАНІХІ».**

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** К юбилею Олега Басилашвили. Премьера. «Тостуемый пьет до дна».

**9.10** Х/ф **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ».**

**11.45** Х/ф **«НЕ ЖДАЛИ».**

**15.35** ОНТ представляет: «Судьба моя – Беларусь».

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.50** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Сегодня вечером». Продолжение.

**22.10** Х/ф **«У БОГА СВОИ ПЛАНЫ».**

**23.55** «Про любовь».

## СТВ

**6.20** «Странное дело».

**8.00** «Анфас».

**8.20** «Самая полезная программа».

**9.10, 11.55** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ПОЗЫВНОЙ «СТАЯ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ спорт».

**20.05** Документальный спецпроект.

**21.40** Т/с **«А ЗОРИ ЗДЕСЬ ТИХИЕ...».**

**0.30** Т/с **«БОЕЦ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10, 8.55, 5.50** Мультфильмы.

**6.20** «Союзники».

**6.50** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**7.50** «Любовь без границ».

**9.05** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Х/ф **«СКАЗКА О ПОТЕРЯННОМ ВРЕМЕНИ».**

**12.20** Х/ф **«АЛЫЕ ПАРУСА».**

**14.20, 16.15, 19.15** Т/с **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**

**19.15** Т/с **«ДВЕНАДЦАТЬ СТУЛЬЕВ».**

**23.50** Х/ф **«ПРО ЛЮБОFF».**

**1.55** Х/ф **«ТОТ САМЫЙ МЮНХГАУЗЕН».**

**4.10** Х/ф **«ЯДЫ, ИЛИ ВСЕМИРНАЯ ИСТОРИЯ ОТРАВЛЕНИЙ».**

## НТВ-Беларусь

**5.50** «Астропрогноз».

**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**7.05** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** Премьера. «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.05** «Еда живая и мёртвая».

**12.05** Квартирный вопрос.

**13.10** «Поедем, поедим!».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**17.25** «Последние 24 часа».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.40** Т/с **«ШЕЛЕСТ».**

**0.25** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.05** «Сто к одному».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.10** «Наше дело».

**12.25** «По секрету всему свету».

**12.50** «Обыкновенный концерт с Эдуардом Эфировым».

**13.25** ПРЕМЬЕРА. Праздничный концерт.

**15.15** Д/ф «МИРНЫЕ ЛЮДИ».

**16.20** Х/ф **«СЛОМАННЫЕ СУДЬБЫ».**

**19.45** «Плюс минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.40** Х/ф **«ЗАБЫВАЯ ОБО ВСЕМ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 12.35** Халк. **8.50** Мошенники. **10.40** Перемотка. **15.15** Поймай толстуху, если сможешь. **17.25** Голодные игры. **20.10** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **23.05** Семейка Джонсов. **0.55** Тайна семи сестёр. **3.05** Забытое. **4.35** Законы привлекательности.

### TV1000 ACTION

**7.05** Заложник. **9.15** Азартные игры. **11.10** Гудзонский ястреб. **13.00** Рекрут. **15.10** Пипец 2. **17.05** Титан. **19.00** Терминатор: Да придёт спаситель. **21.10** Неудержимый. **23.00** Прогулка среди могил. **1.10** 22 пули: Бессмертный. **3.10** Уловка 44. **5.10** Безбашенные.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.25** Высоцкий. Спасибо, что живой. **10.10** Одинокая женщина желает познакомиться. **12.00** Жених. **13.50** Гуляй, Вася! **15.40, 5.30** Адмиралъ. **18.00** Экипаж. **20.45** Ласковый май. **23.05** Несокрушимый. **0.55** Подарок с характером. **3.00** Поддубный.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.30** Т/с **«ЛЕДИ И БРОДЯГА В ЭФИОПИИ». 12.30** Т/с **«ЛЕДИ И БРОДЯГА В РОССИИ». 13.30** «Мама Russia». **14.30** Х/ф **«ПИК ДАНТЕ». 16.30** Х/ф **«ПОСЛЕЗАВТРА». 19.00** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 21.45** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР». 0.30** Х/ф **«БУРЯ В АРКТИКЕ». 2.15** Х/ф **«НАВСТРЕЧУ ШТОРМУ». 3.45** Х/ф **«ЛЕДИ-ЯСТРЕБ». 5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 3». 11.00, 19.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 12.00, 13.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 14.00, 15.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 20.00, 21.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 22.00, 23.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«СЕМЬ ЖЕН ОДНОГО ХОЛОСТЯКА». 6.00, 7.00** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 2.35** Х/ф **«ЭНЦИКЛОПЕДИЯ РАЗВОДОВ». 4.10** Х/ф **«М+Ж». 5.40** Х/ф **«НА МОРЕ!». 7.45** Х/ф **«НОЧНАЯ СМЕНА». 9.40** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: ЛЕГЕНДА О ЗОЛОТЕ ФРИТТОНА». 11.40** Х/ф **«СИДНИ УАЙТ». 13.45** Х/ф **«21 И БОЛЬШЕ». 15.35** Х/ф **«ДЖЕЙ И МОЛЧАЛИВЫЙ БОБ НАНОСЯТ ОТВЕТНЫЙ УДАР». 17.30** Х/ф **«СВАДЬБА ЛУЧШЕГО ДРУГА». 19.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 21.40** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05** Виртуозы. **2.00, 3.05, 4.00, 21.10, 22.15, 23.20** Возвращенные. **5.20, 6.20, 7.20, 8.25** Фантазия белых ночей. **9.25, 10.20, 11.20, 12.15** Дилетант. **13.05, 14.05, 15.00, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05** Прощай, любимая.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 4.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **11.20** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Х/ф **«ЛОРАКС». 16.20, 18.30, 21.15, 23.30** Прогноз погоды на неделю. **16.25** Х/ф **«МУШКЕТЁРЫ». 18.35** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **20.05, 3.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.20** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР 3: ВОССТАНИЕ МАШИН». 23.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.05** Х/ф **«ПАПА-ДОСВИДОС». 2.10** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **7.30** Легкая атлетика. Чемпионат мира. Марафон. Женщины. **9.30** Теннис. WTA. Пекин. **11.00** Теннис. WTA. Ташкент. Ухань. Финалы. **13.35** Большой спорт. **14.20** Футбол. Чемпионат Англии. Шеффилд Юнайтед – Ливерпуль. **16.20** Тренировочный день. **16.50** Спорт-центр. **19.10** Легкая атлетика. Чемпионат мира. **22.20** Волейбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Матч за 3-е место.

### EUROSPORT

**0.30, 4.00, 7.30, 9.30, 12.30, 20.55** Велоспорт. Чемпионат мира. Йоркшир. Юниоры. **2.30, 5.00** Снукер. China Championship. 1/4 финала. **7.00** Олимпийские игры. Camps to champs. **11.00** Watts. **11.30** Мотогонки. EWC. All Access. **12.00, 23.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Франция. Суперпоул. **13.20, 18.50** Волейбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Обзор. **13.30, 21.55** Велоспорт. Чемпионат мира. Йоркшир. Женщины. **18.05, 23.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Франция. Первая гонка. **19.00** Снукер. China Championship. 1/2 финала.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.35, 22.15** Авто: вторые руки. **6.15, 8.50, 11.35, 15.10, 18.40, 22.25, 0.10, 3.25** Итоговые новости. **6.30, 14.30, 2.10** Вечер с Пикуленко. **7.10** Куда уходит детство. **7.55** Народный тест драйв. **8.20** Автодрайв. **9.05** Тест на «Драйве». **9.35** Комплектация. **10.05, 0.25, 1.40** Работяги. **10.25** Сравнительный тест. **10.50, 2.45** Советы юриста. **11.50, 19.40, 22.45, 4.10** Гаражная команда. **12.35, 20.35, 23.30, 4.30** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **13.05, 15.25, 21.00, 23.55, 5.00** Школа внедорожного вождения. **13.20** Тайный покупатель. **13.35, 1.25** Вторичка. **13.50** Всё включено. **14.05** Испытание на прочность. **15.40, 21.15, 5.30** Резьба по стали. **16.10, 21.45, 3.40** Поездка выходного дня. **16.50, 17.55, 18.55** Стальные парни. **17.40** Хорошо забытое. **0.55** Сити-тестер. Эксклюзив.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.30, 8.20** Автошоу GRIP. **9.05, 9.50, 10.35, 11.25, 12.10, 12.55, 13.45, 14.30, 15.20, 16.05** Австралийские золотоискатели. **16.50** Адские грузовики. **17.40** Перевозчики поездов. **18.25, 19.15** Строительство гигантов. **20.00** Гараж: Последний приют. **20.30, 21.20, 22.15** Переделка старья. **23.00, 23.55** Рэй Донован. **0.55, 1.40, 2.25, 3.10, 3.55, 4.40** Деревенский дом. **5.30** Грузовые войны: Великобритания.

### HISTORY

**6.55, 7.50, 8.40, 9.35, 3.30, 4.15** Музейные тайны. **10.25** Рим: первая сверхдержава. **11.20, 12.15** Заговор. **13.10, 14.15** Тайны египетских пирамид. **15.15, 16.10, 17.10, 18.05, 19.00** Загадки Египта. **19.55** Наполеон: Египетская кампания. **21.00** Взрывная Земля. **22.00** История Европы. **23.05** Могилы викингов. **23.55** История оружия. **1.00** Лучшие убийцы древних времён. **1.50, 2.45** Карты убийства. **4.55** Невероятные изобретения. **5.20** Безумцы с «Батавии».

### NATURE

**6.05, 6.55, 7.45, 8.40** Суперветеринар. **9.35, 10.05, 10.35, 11.05, 11.35, 12.05, 12.35** Уличный ветеринар. **13.05, 13.30, 14.00, 14.25, 1.35, 2.00, 2.25, 2.50, 3.15, 3.40** Постыдные проблемы питомцев. **14.55, 15.20** Природа в кадре. **15.50, 16.40, 17.30, 18.20, 19.10** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **20.00, 20.55** Огромные звери: последние из великанов. **21.50, 22.45, 23.45** Эволюция в действии. **0.40** Экспедиция в Европу. **4.10, 4.30, 4.50, 5.15, 5.35** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Безумные изобретатели. **6.25, 7.10** Золото Юкона. **7.55, 8.45** Авто – SOS. **9.30, 9.55, 10.20, 10.45** Тайные истории. **11.10, 11.50, 17.20, 18.10** Чудеса инженерии. **12.35, 13.25** Дикий тунец. **14.10, 15.00** Расследование авиакатастроф. **15.50, 16.35** Затерянные сокровища Египта. **19.00, 22.10** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **19.45** Настольная книга диктатора. **20.35, 21.20** Горячая зона. **22.55, 23.45, 0.30, 1.20, 2.10, 2.55** Путешествия с Гордоном Рамзи. **3.45, 4.35** Начало. **5.20, 5.45** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.00** Охота в Новом Свете. **6.25, 23.25** Андрей Старков и его команда. **6.50, 18.00** Рыболовные путешествия. **7.45, 12.35, 18.55, 1.05** Дело вкуса. **8.05, 14.35, 19.40, 2.25** Охота: собачья работа. **8.30** Поймать лосося. **9.00** На рыбалку с охотой. **9.35, 16.05, 3.45** Оружие для охоты. **10.00, 21.40** Нож-помощник. **10.20, 22.00** Охотничьи собаки. **10.50, 17.35, 1.20, 5.05** Под водой с ружьем. **11.15, 19.15, 1.45, 5.35** Планета рыбака. **11.45, 0.20** Поймать монстра. **12.50** Фишермания. **13.20** Рыбалка 360. **13.50** Пофестивалим! **14.20** Две на одного. Оружие. **15.05, 2.50** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **15.35, 20.45, 3.20** Нахлыст. **16.35, 4.10** Карпфишинг. **17.05, 4.40** Один день из жизни. **20.15** Битва профессионалов. **21.10** Егерский кордон. **22.25** Особенности охоты на Руси. **22.45** Рецепты Древней Колхиды. **23.55** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **2.10** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.15, 22.10, 2.15** Идеальные мастера. **7.00, 11.10, 15.10, 19.15, 23.15, 3.15** Мультиварка. **7.15, 11.25, 15.30, 19.30, 3.30** 10 самых больших ошибок. **7.45, 11.50, 16.00, 20.00, 0.00, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 16.25, 0.30, 4.20** Преданья старины глубокой. **8.45, 12.55, 17.00, 1.05** Садовый доктор. **9.05, 13.10, 17.15, 21.15, 1.15, 5.05** Тихая моя родина. **9.35, 13.40, 17.45, 21.45, 1.45, 5.35** Милости просим. **12.25** Огород круглый год. **20.30** Крымские дачи. **21.00** Нескучный вечер. **23.30** Огород круглый год. **4.50** Соленья-варенья-маринады.

## Беларусь 1

**6.40** Х/ф **«СИЛА ОБСТОЯТЕЛЬСТВ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** «Все за стол!».

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.10** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ СЕРАЯ МЫШЬ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.05** Х/ф **«ГОД СОБАКИ».**

**19.50** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ДЕРЖИ МЕНЯ ЗА РУКУ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**7.50** Т/с **«ЛЮБИМЦЫ».**

**9.20, 19.35** Телебарометр.

**9.25** «Зов крови». Социальное реалити-шоу.

**10.35** «Селаполетела». Трэвел-шоу.

**11.10** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.00** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн- шоу.

**13.00** Х/ф **«СОУЧАСТНИК».**

**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.20** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.05** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ГОЛЫЙ ПИСТОЛЕТ 2 1/2: ЗАПАХ СТРАХА».**

**22.40** Х/ф **«ГОЛЫЙ ПИСТОЛЕТ 33 1/3: ПОСЛЕДНИЙ ВЫПАД».**

**0.00** «Когда мы дома». Скетчком.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**7.55, 15.55, 20.15** Навіны культуры.

**8.15, 20.35** «Гэты дзень».

**8.20** «Вялікая сям'я». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Трабух.

**11.00** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.35** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.30** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Скарбы Агры» [СТ].

**15.00** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч.

**16.15** «Новыя прыгоды няўлоўных». Мастацкі фільм [СТ].

**17.35** «Служылі два таварышы». Мастацкі фільм [СТ].

**19.10** «Дзесяць фатаграфій». Веніямін Смехаў.

**19.50** «Народны майстар». Ігар Еўсціхаў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм [СТ].

**22.35** Прэм'ера. «Сто дзён з Купалаўскім».

**23.00** Канцэрт «Адкрыццё сезону: Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ПОЛЦАРСТВА ЗА ЛЮБОВЬ».**

**11.35** «Видели видео?».

**13.50** «Геннадий Хазанов. Без антракта».

**16.20** Премьера ОНТ: «Они освобождали Беларусь».

**16.55** «Ералаш».

**17.15** «Точь-в-точь».

**20.00** «Контуры».

**21.05** Премьера. Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).

**23.10** Х/ф **«БЕЗ СЛЕДА».**

## СТВ

**6.00** «Странное дело».

**7.40, 22.00** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**11.55, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЕТЕРЫ МАЙОРА СОКОЛОВА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** «Засекреченные списки».

**0.15** Т/с **«БОЕЦ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.45, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«СЕМНАДЦАТЬ МГНОВЕНИЙ ВЕСНЫ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.30** Х/ф **«САЛОН КРАСОТЫ».**

**3.55** «Наше кино. История большой любви. Фильм «Большая перемена».

**4.20** Т/с **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**

## НТВ-Беларусь

**5.50** «Астропрогноз».

**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**7.05** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.35** «Однажды...».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**12.00** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Виктор Рыбин и Наталья Сенчукова.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Ты не поверишь!

**21.10** Х/ф **«24 ЧАСА».**

**22.40** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«МОЯ ФАМИЛИЯ ШИЛОВ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ ПОСЛЕ ЖИЗНИ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** «Смехопанорама».

**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**16.20** Х/ф **«В СТАРЫХ РИТМАХ».**

**18.05, 21.45** Х/ф **«ЗОРКО ЛИШЬ СЕРДЦЕ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Халк. **8.45** Семейка Джонсов. **11.05** Тайна семи сестёр. **13.25** Невероятный Халк. **15.35** Забытое. **17.20** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **20.10** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **22.35** Пятый элемент. **1.05** Мадам. **2.45** Руки-ноги за любовь. **4.15** Крысиные Бега.

### TV1000 ACTION

**7.05** Неудержимый. **8.55** Терминатор: Да придёт спаситель. **11.05** Прогулка среди могил. **13.10** 22 пули: Бессмертный. **15.25** Уловка 44. **17.10** Безбашенные. **22.10** Бесславные ублюдки. **1.05** Скайлайн 2. **3.00** Проклятие 2. **5.10** Кодекс вора.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.45** Ласковый май. **10.05** Тени забытых предков. **11.55** Экипаж. **14.40** Подарок с характером. **16.25** Поддубный. **18.50** Любовь-морковь 3. **20.40, 5.30** Папа. **22.30** Приличные люди. **0.20** Счастья! Здоровья! **2.00** Несокрушимый. **3.25** Бой с тенью 3D: Последний раунд.

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **10.45, 11.45, 12.30, 13.30** Т/с **«ДОБРАЯ ВЕДЬМА». 14.30** Х/ф **«ПРОГУЛКИ С ДИНОЗАВРАМИ». 16.15** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 19.00** Х/ф **«ЯВЛЕНИЕ». 20.45** Х/ф **«ТЕПЛО НАШИХ ТЕЛ». 22.45** «Мама Russia». **23.45** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР». 2.15** Т/с **«ЛЕДИ И БРОДЯГА В ЭФИОПИИ». 3.15** Т/с **«ЛЕДИ И БРОДЯГА В РОССИИ». 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 12.00, 13.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 20.00, 21.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 22.00, 23.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«СЕМЬ ЖЕН ОДНОГО ХОЛОСТЯКА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«ЗАЯЦ НАД БЕЗДНОЙ». 1.55** Х/ф **«РУССКАЯ ИГРА». 3.55** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ 2». 6.00** Х/ф **«ИМУЩЕСТВО С ХВОСТОМ». 7.50** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР». 9.50** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА». 11.30** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 13.50** Х/ф **«СЕКС ПО ДРУЖБЕ». 15.55** Х/ф **«МОЯ БЫВШАЯ ПОДРУЖКА». 17.35** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 19.30** Х/ф **«Я ХУДЕЮ». 21.30** Х/ф **«}{ОТТ@БЬ)Ч». 23.20** Х/ф **«УЧИТЕЛЬ ГОДА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20, 1.20, 2.30, 4.00, 4.55, 5.55, 6.55, 8.05** Возвращенные. **9.10, 10.15, 11.15, 12.20, 13.30, 14.30, 15.35, 16.40, 17.50, 18.50, 19.55, 20.55** Метод Фрейда. **22.00, 23.00** Метод Фрейда 2.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.15, 10.40, 11.40, 12.15, 14.40, 15.15, 17.45, 19.35, 21.15, 23.35** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **15.20** Х/ф **«БОГИ ЕГИПТА». 17.50** Х/ф **«ПЛЮШЕВЫЙ МОНСТР». 19.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.20** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ДА ПРИДЁТ СПАСИТЕЛЬ». 23.40** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.15** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 2.05** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Хоккей. КХЛ. Нефтехимик (Нижнекамск) – Динамо-Минск. **9.00** Игры «на вырост». **9.30** Теннис. WTA. Пекин. **12.50** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Юность-Минск – Неман (Гродно). **15.10** Азбука здоровья. **15.20** Гандбол. Квалификация к ЕВРО-2020. Женщины. Беларусь – Словения. **17.00** Гандбол. Чемпионат Беларуси. БГК им. Мешкова – СКА-Минск. **18.45** Спорт-центр. **20.45** Легкая атлетика. Чемпионат мира. **23.30** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **0.15** Итоги недели. **1.00** Пит-стоп.

### EUROSPORT

**0.00** Ралли. ERC. Кипр. Первый день. **0.30, 6.00** Снукер. China Championship. 1/2 финала. **2.30, 4.00, 9.30** Велоспорт. Чемпионат мира. Йоркшир. Женщины. **8.00** Велоспорт. Чемпионат мира. Йоркшир. Юниоры. **10.30, 21.00** Велоспорт. Чемпионат мира. Йоркшир. Мужчины. **17.50** Watts. **17.55** Конный спорт. Global Champions tour. Нью-Йорк. **19.25, 23.00** Снукер. China Championship. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.25, 19.10, 22.10, 4.10** Авто: вторые руки. **6.15** За рулем каждый день. **7.15** Куда уходит детство. **7.35, 10.45, 13.10, 16.40, 19.25, 0.10, 1.35, 4.00** Итоговые новости. **7.50, 18.45** Автодрайв. **8.20, 18.15** Народный тест драйв. **8.45, 9.50, 1.50** Работяги. **9.25** Сити-тестер. Эксклюзив. **11.00** Вечер с Пикуленко. **11.40, 19.40, 22.40, 4.40** Гаражная команда. **12.25, 23.25, 5.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **12.55, 13.50, 20.55, 23.55** Школа внедорожного вождения. **13.25, 3.05** Испытание на прочность. **14.05, 1.20** Тайный покупатель. **14.20** Вторичка. **14.35, 2.50** Всё включено. **14.50** Советы юриста. **15.30, 21.10, 5.30** Резьба по стали. **16.00, 21.40, 3.30** Поездка выходного дня. **16.55** Стальные парни. **17.40** Автовинтаж. **20.30** Сделано в России. **22.20, 4.25** Хорошо забытое. **0.25** Тест на «Драйве». **0.50** Комплектация. **2.25** Сравнительный тест.

### EXPLORE

**6.10, 6.35, 7.05, 7.30** Битва за карпов. **7.55, 8.45** Чудовищный карп. **9.35, 10.25** Большое рыболовное состязание. **11.15, 12.00, 12.45, 13.30, 14.15, 15.00, 15.45** Деревенский дом. **16.30, 16.55, 17.20, 17.45** Нефритовая лихорадка. **18.15, 19.00** Надсмотрщик. **19.50, 20.15** Гараж: Последний приют. **20.40, 21.30, 22.20, 23.10, 0.00** Ковбои ледяных вод. **0.50, 1.35, 2.25, 3.10, 3.55, 4.45** Дикая Монтана. **5.35** Грузовые войны: Великобритания.

### HISTORY

**6.15, 6.55, 5.00** Невероятные изобретения. **7.30, 8.20, 3.30, 4.15** Музейные тайны. **9.10** Королевский двор изнутри. **10.25, 11.25** Взрывная Земля. **12.20, 13.25, 14.30** Вторая мировая – битвы за Европу. **15.35** Остров Адольф. **16.35** Женщины Третьего Рейха. **17.40, 18.45** Катастрофа европейского еврейства. **19.55** Елизавета I и ее враги. **20.50** Наполеон. **22.00** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **23.00** Заговор. **23.55** Смертоносный интеллект. **0.55, 1.20** Родовые проклятья. **1.50, 2.45** Карты убийства. **5.25** Женщина в железном гробу.

### NATURE

**6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 2.10, 2.35, 3.05, 3.30** Постыдные проблемы питомцев. **8.00, 8.30, 9.00, 9.30** Уличный ветеринар. **10.00, 10.55** Огромные звери: последние из великанов. **11.50, 12.45, 13.45** Тьма: мир ночной природы. **14.40, 15.35, 16.30, 17.25** Дикая Швейцария. **18.20, 19.10** Экспедиция в Европу. **20.05, 20.55** Неукротимая Румыния. **21.45** Дикая Норвегия. **22.50, 23.40, 0.30, 1.20** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **3.55, 4.15, 4.35, 4.55, 5.20, 5.40** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Безумные изобретатели. **6.25, 7.10** Золото Юкона. **7.50, 8.40, 1.20, 2.05** Авто – SOS. **9.25, 9.50, 10.15, 10.40** Зона строительства. **11.05, 11.45** Осушить океан. **12.35, 13.20** Дикий тунец. **14.10, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **19.00, 19.45, 22.10, 22.55, 2.55, 3.40** Горячая зона. **20.30, 23.40, 4.25** Эпидемии: По ту сторону Горячей зоны. **21.20, 0.30** Расследование авиакатастроф. **5.15, 5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.30** Фишермания. **6.25, 23.00** Рыбалка 360. **6.55, 18.00** Поймать монстра. **7.45, 12.50, 18.50, 1.10** Дело вкуса. **8.00, 14.30, 19.35, 2.25** Охота: собачья работа. **8.30, 20.05** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **9.00, 20.35, 3.20** Нахлыст. **9.30** Оружие для охоты. **9.55, 21.35** Карпфишинг. **10.25, 22.05** Один день из жизни. **10.55, 17.35, 1.20, 5.05** Под водой с ружьем. **11.25, 19.05, 1.45, 5.35** Планета рыбака. **11.55, 0.15** Рыболовные путешествия. **13.05** Охота в Новом Свете. **13.30** Андрей Старков и его команда. **14.00** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **15.00, 2.55** Битва профессионалов. **15.30** На рыбалку с охотой. **16.05, 21.05, 3.45** Егерский кордон. **16.30, 4.15** Нож-помощник. **16.50, 4.25** Охотничьи собаки. **17.20, 4.55** Особенности охоты на Руси. **23.30** Пофестивалим! **0.00** Две на одного. Оружие. **2.15** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.05, 18.05, 22.05, 2.15** Идеальные мастера. **7.00, 11.05, 15.10, 19.10, 23.10, 3.15** Мультиварка. **7.15, 11.20, 15.25, 19.25, 23.25, 3.30** 10 самых больших ошибок. **7.45, 11.50, 15.55, 19.55, 23.55, 4.00** Урожай на столе. **8.15, 12.20, 0.25** Преданья старины глубокой. **8.45, 12.50, 0.55** Садовый доктор. **9.05, 13.05, 21.10, 1.10, 5.05** Тихая моя родина. **9.35** Огород круглый год. **13.40, 17.35, 1.35, 5.35** Милости просим. **16.20, 20.25, 4.25** Крымские дачи. **16.50, 20.50, 4.50** Нескучный вечер. **17.10** Огород круглый год. **21.35** Секреты стиля. **2.00** Про грибы.

# «Пра Агінскага ўпершыню пачулі на мэблевай фабрыцы»

## Юрась Церабун – пра Міхаіла Чайкіна і творчы асяродак Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**«Ты не хочаш выглядаць як самадзейны мастак і не дасягнуў узроўню прафесіянала. Гэта што датычыць жывапісу. З графікай у цябе значна лепш. Бываюць нават нядрэнныя творы», – неяк аднойчы мне сказаў брат-скульптар.**



Міхаіл Чайкін.

Амаль тое самае пачуў і ад вядомай мастачкі **Ядвігі Раздзялоўскай** (1902–1992):

– У вас артыстычны шрыфт, малюнак даволі выразны, як фатограф добра адчуваеце дакладнасць кампазіцыі. А пакажыце мне свой жывапіс.

Глянуўшы на некалькі маіх кардонак, адразу сказала:

– У вас страшэнная блытаніна ў колеры. Вы зусім не ведаеце фарбы. Колеразнаўства – гэта навука, якую вывучаюць у навучальных установах мастацтва. Якая ў вас сіняя?

– Тая, што трапіла пад руку.

– Яно і відаць. Ёсць такая тыаіндыга чорная. У спалучэнні з белай можна дасягнуць ад лёгкай сіняву да драматызму. Калі змяшаць з жоўтай, будзе непаўторная зеляніна для пейзажу. Не старайцеся раздраконьваць неба. Яно павінна накрываць пейзаж, толькі і ўсяго.

### Ядвіга Раздзялоўская: Не магу пісаць на замову

30 год таму яблыні, пасаджаныя намі на лецішчы, далі першы ўраджай. Набраў прыгажэйшых. Прывёз Ядвізе Іосіфаўне.

– Намалюйце мне, калі ласка, – папрасіў.

– Дык вы ж і самі можаце.

– Яно так. Але хачу, каб вы мне іх нібы асвяцілі на ўсё жыццё.

Праз некаторы час яна падала мне шэдэўр, выкананы пастэллю:

– Гэта ўсё, што ў мяне атрымалася. Не магу пісаць на замову.

Пачуўшы пажаданні пра фарбы і ўлічыўшы ўсе заўвагі, я паказаў мастачцы новыя кардонкі. На што пані Ядзя сказала:

– Гэта зусім іншы жывапіс. Віншую. Гэта крок наперад. Вочы павінны бачыць колер, а рука сама знайсці патрэбныя фарбы – гэта мая вам парада.

Той незабыўны ўрок застаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё.

Толькі сёння ўсведамляеш, якога высокага ўзроўню мастачка жыла ў Маладзечне і сябравала з намі.

### Стараліся стварыць у Маладзечне творчае асяроддзе

Мы і самі стараліся стварыць у сваім горадзе творчае асяроддзе. Але ў Маладзечне сёння няма выставачнай залы, карцінная галерэі, кіёска, дзе б прадавалі творы мастацтва.

У свой час кіраўнік бюро эстэтыкі Маладзечанскай мэблевай фабрыкі **Міхаіл Чайкін** стварыў цудоўную выставачную залу і арганізоўваў у ёй выставы і тэматычныя вечары. Была выстава сусветна вядомых твораў у факсімільным выкананні і скульптур з галерэі Савецкага Саюза.

Упершыню ў клубе мэблевай фабрыкі мы пачулі пра Міхала Клеафаса Агінскага на вечарыне, якую правёў Міхаіл Чайкін.

Міхаіл Паўлавіч арганізаваў паездку творчых людзей на БАМ. Сярод іх былі паэт **Уладзімір Някляеў**, баяністка **Тамара Бялькова** са студэнтамі кансерваторыі, фатограф мэблевай фабрыкі **Аляксей Фяцісаў** і іншыя. Тады Байкала-Амурская магістраль была крыніцай натхнення. Ёй прысвячалі песні, вершы, паэмы, творы жывапісу.

Ганаруся цудоўнай акварэллю Гродзенскага мастака **Анатоля Гаршкавоза**, якую ён напісаў на БАМе і падарыў мне.

### Пра лебедзеўскую царкву, што стала свірнам

Міхаіл Чайкін меў вялікую калекцыю рэдкіх кніг і быў прыхільнікам творчасці Аляксандра Пушкіна. Ён запрасіў у Маладзечна пісьменніка-пушкініста **Сямёна Гейчанку** (1903-1993). Незабыўная сустрэча з гісторыкам, Героем Сацыялістычнай Працы адбылася тады ў гарадской бібліятэцы.

Ядвіга Раздзялоўская запрасіла госця да сябе на гарбату. А той прапанаваў прыехаць на эцюды ў Пушкінагор'е. Яна пагадзілася. Удзень пісала эцюды, а па вечарах гутарылі пра якога-небудзь з тых самавараў, што было багата ў калекцыі Сямёна Сцяпанавіча.

Ядвіга Раздзялоўская шмат падарожнічала. Каб стварыць серыю твораў «Дагестан», доўгі час жыла ў ауле Кубачы, які добра вядомы сваімі майстрамі-ювелірамі. Партрэты, будыніны на ўзгорку, жытло, пейзажы знайшлі ўвасабленне ў яе творах. Потым мастачка падарыла іх сваёй радзіме – Польшчы.

Міхаіл Чайкін дасканала валодаў тэхнікамі лесіроўкі – атрыманне глыбокіх пераліўвістых колераў, і класічнага іканапісу. Таму мог капіраваць нават самыя вядомыя абразы. Ён быў вернікам, інтэлігентам, мастаком і мастацтвазнаўцам.

Мне казаў:

– Пры магчымасці наведайце лебедзеўскую царкву. Там ёсць абразы, напісаныя мной у маёй майстэрні.

Быць у царкве Святой Тройцы, пабудаванай у 1869 годзе, давялося, калі ў 70-х гадах мінулага стагоддзя мы, педагогі дзіцячай музычнай школы, працавалі на прасушцы збожжа.

Ператварыць царкву ў свіран для збожжа маглі толькі ў нас. Несучы на плячах мех, кожны з нас пры ўваходзе здымаў шапку і прасіў прабачэння. І ўсё ж добра, што царква ацалела. У Смаргоні такую зруйнавалі і на яе месцы паставілі кінатэатр.

**…Творцы сталага пакалення адыходзяць. Ім на змену прыходзіць таленавітая моладзь, якая павінна будзе прадстаўляць у свеце Беларусь і Маладзечна.**

Хочацца верыць, што ўсё ў маладых людзей атрымаецца на няпростай дарозе ў мастацтва.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**
**Фота аўтара.**

● КАЛЯНДАР

**20 ВЕРАСНЯ**

**1903.** У Баку нарадзілася **Наталля Арсеннева**, беларуская паэтка. Працавала ў вілейскай абласной газеце «Сялянская праўда» (1940). Падверглася рэпрэсіям. У вайну жыла на радзіме мужа ў Дорах ля Валожына, Мінску.



**1944.** Вілейская вобласць перайменаваная ў Маладзечанскую, цэнтр перанесены ў Маладзечна. Скасаваная 20 студзеня 1960.

**21 ВЕРАСНЯ**

**1918.** Нарадзіўся **Фёдар Янкоўскі**, беларускі мовазнаўца і пісьменнік (пам. 1989). У 1940-х выкладаў беларускія мову і літаратуру ў Радашкавіцкай СШ.

**1939.** Пасля двухдзённых баёў Чырвоная Армія заняла Гродна.

**22 ВЕРАСНЯ**

**1944.** СССР правёў першае выпрабаванне ядзернай зброі.

**23 ВЕРАСНЯ**

**1910.** Нарадзіўся **Юльян Сергіевіч**, в. Юраўшчына, цяпер Маладзечанскі раён (пам. 1976). Беларускі паэт і настаўнік, мастак.



**24 ВЕРАСНЯ**

**1815.** Нарадзілася **Альбіна Габрыеля Пузына**, пісьменніца і мемуарыстка. Да шлюбу жыла ў маёнтку Дабраўляны, цяпер Смаргонскі раён. Сябравала з Ігнатам Ходзькам, Тамашам Занам.

**25 ВЕРАСНЯ**

**1895.** У Радашкавічах нарадзілася **Ванда Лявіцкая (Лёсік)**, беларуская пісьменніца, перакладчыца, педагог.

**26 ВЕРАСНЯ**

**1964.** Утвораны курортны пасёлак Нарач. Заснаваны пры курорце Нарач з вёсак Купа, Баравыя, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепанёва, Урлікі.

**Падрыхтаваў**
**Мікола ГАЙДУК.**

# Перамога на «Палове». Каманда з Астраўца выйграла нацыянальную лігу па баскетболе 3х3




Падчас цырымоніі ўзнагароджання.

**Астравецкая стрытбольная каманда перамагла ў чэмпіянаце нацыянальнай лігі «Палова». У скарбонцы «Астравец Расатам» – другое месца на United Europe League, бронзавыя медалі на чэмпіянаце Беларусі і срэбра 3х3 Parimatch League. З гэтай нагоды «Рэгіянальная газета» пагутарыла з менеджарам «Астравец Расатам» Паўлам Сатыравым.**

### Элітная перамога Астраўца

На працягу ўсяго сезона ў «Эліце» – у гэтай катэгорыі гуляў «Астравец Расатам» – некалькі камандаў у адкрытую заяўлялі аб дамаганнях на тытул. У складзе «атамшчыкаў» гуляюць **Арцём Казлоў** (ужо трохразовы чэмпіён «Паловы»), **Вацлаў Бугаеў**, **Генадзь Захар**, **Юры Ігнацьеў**.

Асноўную канкурэнцыю прадстаўнікам астравецкай каманды склалі баскетбалісты з каманды «Містар Мэджык». Абедзве былі найбольш стабільныя на этапах рэгулярнага сезона, а кожная іх сустрэча была вартая фіналу.

Пры гэтым «Мэджык» ні разу не прайграваў «Астраўцу»: двойчы «Расатам» саступаў на стадыі паўфіналу, яшчэ раз не змог прайсці сапернікаў у фінале. Але ў фінальнай сустрэчы камандаў ад першай і да апошняй хвіліны дамінавалі астравецкія баскетбалісты. У трох папярэдніх гульнях паміж стрытбольнымі калектывамі розніца ў ліку складала ў сярэднім тры ачкі, у фінале «Астравец» разграміў сваіх саапернікаў – 21:11. «Мэджык» так і не здолеў перазагрузіцца па ходзе матча, нават калі адбылася эмацыйная перапалка з удзелам Паўла Сатырава і гульца з каманды «Містар Мэджык».

### Чаму каманда называецца «Астравец Расатам»

Першыя крокі па збліжэнні з «Расэнергаатамам» каманда зрабіла ў 2018 годзе, калі па запрашэнні **Аляксандра Фаміна** і **Сяргея Фаміна** прыехалі яшчэ са старой камандай ViM Union у Смаленск на лігу Rosenergoatom Cup 3х3. У далейшым, калі ўтваралася ліга United League Europe 3х3 у Санкт-Пецярбургу, дзе генеральным партнёрам з'яўляецца «Расэнергаатам», хлопцы Сатырава атрымалі запрашэнне выступаць на турніры ад Беларусі.

> **– На гэтым турніры Сяргей Фамін прапанаваў мне сабраць моцную, баявую каманду ў баскетболе 3х3, – распавядае Павел Сатыраў.**

### Планы на гэты сезон вялікія, але трэба больш гульцоў

Асноўны план для Сатырава на гэты год – стварэнне прафесійнай каманды з трэніровачным працэсам.

Турніраў у «Астраўца» будзе процьма, асабліва напярэдадні Алімпіяды, тлумачыць менеджар. На бліжэйшы час каманда будзе занятая трэніровачным працэсам, наладжваннем каманднай хіміі, падрыхтоўкай да United League Europe, якая стартуе ў студзені. Па магчымасці «атамшчыкі» будуць выязджаць на турніры ў бліжэйшае замежжа.

– Перш за ўсё, мы адчуваем дэфіцыт добрых гульцоў у 3х3 з-за таго, што хлопцы сыходзяць у класічны баскетбол, дзе яны бачаць сваю перспектыву росту і ў іх стабільная зарплата.

Сатыраў распавядае, што ў Беларусі ёсць таленавітыя хлопцы і ў непрафесійнай баскетбольнай лізе. Але яны не гуляюць у баскетбол 3х3. Сатыраў бачыць у гэтым шэраг прычын: жорсткі кантакт, наяўнасць спонсара, занятасць з-за асноўнай працы ці вучобы.

– Прыклад у нас перад вачыма – гэта каманда «Гета Баскет», якая некалькі гадоў ездзіла па ўсіх турнірах за свае грошы, гульцы трэніраваліся, верылі ў сябе і ў 2017 годзе выйгралі чэмпіянат Еўропы. Многія нашы хлопцы не гатовыя ездзіць за свой кошт і робіць велізарную працу ў трэніровачным плане.

### Баскетбол 3х3 больш перспектыўны за класічны?

У ліпені Мінск прыняў Еўрапейскія гульні, на якіх прадставілі і баскетбол 3х3.

– Пакуль не скажу, што стрытбол стаў больш перспектыўным, таму што ў нас няма каманднай канкурэнцыі, хоць бы з чатырох клубаў на пастаяннай аснове.

> **Мы бачым, як паволі пачынаюць далучацца рэгіёны да правядзення турніраў: Гомель, Магілёў.**



Генадзь Захар у атацы.



Юры Ігнацьеў ловіць мяч.



Арцём Казлоў (злева) абыгрывае саперніка.



Як думаеце, ці паспяховым стаў кідок Арцёма Казлова?

Што тычыцца Еўрапейскіх гульняў, я вельмі шчаслівы за хлопцаў і дзяўчат і за два бронзавыя медалі! Хварэў так на трыбунах, што заўсёды сыходзіў без голасу.

Сатыраў кажа, што ў Беларусь прыязджаюць прадстаўнікі замежных камандаў, што падымае ўзровень стрытбола ў краіне.

**На лігу 3х3 Parimatch League, якую арганізоўвае Сатыраў, прыязджала зборная Польшчы, якая з'яўляецца бронзавым прызёрам апошняга чэмпіянату свету.**

– Асноўны фактар, чаму мы вырашылі правесці гэты турнір, была падрыхтоўка нашых зборных у розных узростах да летняга сезона і папулярызацыя 3х3 у нашай краіне. Сутнасць у тым, што мы атрымалі велізарны досвед і ніхто не збіраецца спыняцца.

На думку менеджара астравецкай каманды, самым галоўным фактарам у Еўрапейскіх гульнях і выступленні беларускіх зборных стала тое, што баскетбол 3х3 убачылі і пра яго даведаліся многія людзі.

– Па сутнасці, многія не ведаюць, што гэта ўжо алімпійскі від праграмы і паволі 3х3 пачынае выклікаць цікавасць у звычайных абывацеляў, так як ён дынамічны, кантактны і відовішчны.

### Новая пляцоўка ў Астраўцы

У пачатку верасня ў Астраўцы адкрылі новую спартыўную пляцоўку для баскетбола 3х3.

– На жаль, не атрымалася вырвацца на адкрыццё стадыёна 3х3 у Астраўцы, але па водгуках многіх, хто там быў, гэта выдатныя два корты з прафесійным пакрыццём і трыбунамі.

**Сатыраў запэўнівае, што ў будучым годзе ў Астраўцы пройдуць буйныя міжнародныя турніры. А пабудаваная пляцоўка ў горадзе з'яўляецца базай падрыхтоўкі для каманды «Астравец Расатам».**

У Астраўцы праводзяць традыцыйны турнір «Планета Баскетбол Аранжавы Атам» пры падтрымцы «Расэнергаатама» і кіраўніцтва Гродзенскай вобласці, дзе выступаюць усе магчымыя ўзроставыя катэгорыі гульцоў па баскетболе 3х3.

– Я думаю, у наступным годзе, калі мы будзем выступаць у родных сценах, аматараў гэтай выдатнай гульні стане яшчэ больш, бо класічны баскетбол і 3х3 баскетбол – гэта два розныя віды спорту. Гэта датычыцца ўсяго, фізічных дадзеных, мыслення, памеру пляцоўкі і мяча, часу на атаку і многіх спецыфічных тонкасцяў, – патлумачыў Сатыраў.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● ГАНДБОЛ

## Ашмяны прынялі трэці тур чэмпіянату вобласці па гандболе

Мінулыя выхадныя ў Ашмянах прайшлі пад знакам гандбола. Напярэдадні 75-годдзя ўтварэння Гродзенскай вобласці ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе праходзіў трэці тур адкрытага чэмпіянату Гродзенскай вобласці па гандболе сярод мужчынскіх камандаў.

Ашмянцы спаборнічалі з камандамі Шчучына (27:8), Брэста (20:21) і ваеннага факультэта ГрДУ (16:18).

Па выніках трэцяга тура адкрытага чэмпіянату Гродзенскай вобласці па гандболе ашмянцы набралі 12 ачкоў і размясціліся на чацвертым радку. У Гродне пройдзе чацверты, заключны, тур чэмпіянату вобласці, дзе за званне пераможцаў будуць змагацца лепшыя гандбольныя каманды.

**Паводле osh.by**

● ФУТБОЛ

## Маладзечанцы перамаглі на абласным турніры па міні-футболе

Абласны этап турніру па міні-футболе сярод падлеткаў «Разам да перамогі» прайшоў 11 верасня ў Мар'інай Горцы.

У спаборніцтвах змагаліся шэсць камандаў – прадстаўнікі Пухавіцкага, Слуцкага, Барысаўскага, Маладзечанскага, Дзяржынскага раёнаў і прысталічнага рэгіёна.

У складзе камандаў гулялі падлеткі, у дачыненні да якіх праводзіцца індывідуальна-прафілактычная работа, і супрацоўнікі інспекцый па справах непаўналетніх.

Па выніках футбольных баталій на першую прыступку п'едэстала паднялася каманда Маладзечанскага раёна. Лепшым гульцом стаў 14-гадовы маладзечанец **Даніла Паўловіч**. Падлетку ўручылі асабісты кубак і дыплом.

У склад зборнай Маладзечаншчыны ўвайшлі Даніла Паўловіч, вучань сярэдняй школы №2, **Антон Грыб**, **Сямён Аніщчук**, **Аляксандр Таргонскі** і **Алег Федчанка**, вучні сярэдняй школы №11, а таксама **Аляксандр Суравец**, вучань сярэдняй школы №12, і навучэнец Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа **Ягор Мялешка**.

Разам з юнымі спартсменамі за першынство змагаліся ўчастковыя інспектары ІСН райаддзела – старшы лейтэнант міліцыі **Аляксандр Францкевіч** і лейтэнант міліцыі **Аляксандр Танюкевіч**.

Да абласных спаборніцтваў хлопцы пачалі рыхтавацца яшчэ на пачатку жніўня. Трэніроўкі праходзілі на базе фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі. Акрамя таго, трое маладзечанскіх хлопцаў атрымалі пуцёўку ў зборную Мінскай вобласці.

Рэспубліканскія спаборніцтвы праходзілі ад 17 да 19 верасня.

## «Маладзечна» перамагае «Белшыну-2»

Маладзечанскія футбалісты перамаглі ў чарговай гульні гэтага сезона. Зялёна-белыя забілі тры галы (**Новік**, **Лоўгач**, **Дудо**) у сярэдзіне матча. Новік рэалізаваў момант напрыканцы першага тайма, а Лоўгач і Дудо замацавалі вынік у пачатку другога тайма. Такім чынам, гульня завяршылася з лікам 3:0 на карысць маладзечанцаў. «Маладзечна» знаходзіцца на трэцім радку ў турнірнай табліцы. Наперадзе толькі дзяржынскі «Арсенал» і «Ашмяны-БДУФК».

## Чысцінцы згулялі з «Вікторыяй»

Чысцінскія футбалісты на чале з **Мятліцкім**, які зрабіў дубль у гэтай сустрэчы, вычарпалі галявы патэнцыял яшчэ ў першым тайме. На пачатку другога тайма **Філатаў** з «Вікторыі» забіў адзін мяч, але гэтага было недастаткова для перамогі каманды з Мар'інай Горкі. Аднак гэтага было дастаткова для пераможных трох ачкоў для чысцінцаў – 2:1 для Чысці. «Андэрдог» цяпер знаходзіцца на чацвертым месцы турнірнай табліцы.

## «Ашмяны-БДУФК» узялі яшчэ тры ачкі

«Ашмяны» працягваюць серыю перамог. На гэты раз ашмянцы выйгралі ў «Івацэвічаў» з буйным лікам. Галы забівалі **Смаль**, **Ладуцька**, **Скварчэўскі**. «Івацэвічы» прайгралі ашмянцам з лікам 1:3 На дадзены момант ашмянская каманда займае другі радок у турнірнай табліцы. «Ашмяны-БДУФК» адстаюць ад лідара – «Арсенала» – на два ачкі.

**Настасся УТКІНА.**

## Да 25-годдзя ў «Надзеі» адкрыюць вяровачны парк

ВІЛЕЙКА

23 і 24 верасня ў ДРАЦ «Надзея», што на Вілейшчыне, будуць святкаваць 25-годдзе цэнтра.

На мерапрыемстве «Вехі гісторыі» расказжуць пра матывы стварэння і этапы развіцця праекта.

Правядуць гульню-падарожжа «Надзея прапануе», свята для дзяцей, урачыстае пасяджэнне, канцэрт.

Таксама адчыняць вяровачны парк «Лесвіца ў неба», якім змогуць карыстацца і дзеці з абмежаванымі магчымасцямі.

Удзельнічаюць прадстаўнікі арганізацый «Сябры дзіцячага цэнтра «Надзея» ў Германіі», «Жывое партнёрства», Дэпартамент па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, дзіцячы фонд Японіі, партнёрскія арганізацыі Беларусі і Германіі, кіраўнікі і супрацоўнікі «Надзеі».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У скейт-парку закрываюць сезон

ВІЛЕЙКА

22 верасня ў 12:00 у Вілейцы правядуць мерапрыемства, прысвечанае закрыццю сезона ў скейт-парку.

У праграме:
- камандны залік
- лепшы трук (пірамідка)
- вілейская гонка

Запрашаюць усіх ахвотных!

**Аддзел інфармацыі.**

## Намалююць графіці з Сапегам

АШМЯНЫ

Графіці малююць на сцяне будынка па вуліцы Савецкай, у якім знаходзяцца пад адным дахам краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча і гарадская аптэка.

Будучая карціна на сцяне музея – гэта другая частка трыпціха (твор, які складаецца з трох карцін) «Тры старасты ашмянскія – Радзівіл, Сапега, Агінская. 16-18 стст».

Першая частка трыпціха размясцілася яшчэ ў 2013 годзе на сцяне будынка (кафэ «Галактыка» і крама «Пачастунак»).

Мастачкі **Ганна Выгонная** і **Яўгенія Юнашава** намалююць Паўла Стэфана Сапегу разам з жонкай Альжбетай. Павел Сапега – грамадскі і ваенны дзеяч. Яго ведаюць як уладальніка замка ў Гальшанах. Ён быў падканцлерам літоўскім, старастам ашмянскім і гомельскім.

– Пасля завяршэння малюнка мы плануем павесіць шкляныя таблічкі-анатацыі, дзе можна будзе прачытаць пра сэнс карцін, каб нашы працы не засталіся проста графіці. Прадбачыць час завяршэння працэсу пакуль нельга: усё залежыць ад надвор'я – не заўсёды магчыма маляваць з-за яго капрызаў. Ад падрыхтоўкі сцяны таксама шмат залежыць, але тут малюецца добра, «палатно» нам трапілася надрэннае, – распавядае Выгонная.

**Фота osh.by.**

## Астравец будзе супрацоўнічаць з Венгрыяй і «Расатамам»

АСТРАВЕЦ

У рамках мерапрыемстваў XX Міжнароднага бізнес-форуму «Еўрарэгіён «Нёман-2019», які праходзіць у Гродне, старшыня Астравецкага райвыканкама **Ігар Шалудзін** падпісаў мемарандум аб супрацоўніцтве з Венгрыяй і дарожную карту з «Расатамам».

Гэтыя дамоўленасці будуць спрыяць цеснаму міжрэгіянальнаму супрацоўніцтву і дададуць новы віток у развіцці Астравецкага раёна.

**Паводле ostrovets.by.**

## Рыбгасы рэгіёна атрымаюць субсідыі

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

У Беларусі вызначылі спіс рыбгасаў, якім у 2019-2022 гадах дадуць субсідыі. Сярод іх – гаспадаркі з Маладзечаншчыны і Смаргоншчыны.

Субсідыі пойдуць на выплату часткі працэнтаў за карыстанне крэдытамі, выдадзенымі ў 2019 годзе для набыцця камбікармоў для рыбы і пагашэння запазычанасці.

У пералік увайшлі наступныя арганізацыі: ААТ «Грыцава» з Маладзечанскага раёна і ААТ «Солы» са Смаргоншчыны.

Даваць рыбгасам субсідыі будуць штомесяц са сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



На выставе.

# Адкрылі выставу «Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць»

**Лілі Грун нарадзілася ў Вене ў яўрэўскай сям'і. Падлеткам зацікавілася тэатрам. У 1931 годзе пераехала ў Берлін. Пісала артыкулы, вершы, раман, друкавалася ў газетах і часопісах, іграла ў тэатры. У 1942 годзе яе дэпартавалі ў Мінск. І ў гэтым жа годзе забілі ва ўрочышчы Благаўшчына каля Трасцянца.**

ВІЛЕЙКА

### У аснове выставы – гісторыі вязняў

Гісторыі Лілі і яшчэ некалькіх вязняў Трасцянца ляглі ў аснову перасоўнай выставы «Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць». Яе адкрылі 12 верасня ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча ў Вілейцы.

На стэндах – фотаздымкі, дакументы, сведчанні-ўспаміны.

### Вена і Вілейка страцілі яўрэйскія абшчыны

На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі нямецкага пасольства і Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Раў, Вілейскага райвыканкама, пасол Аўстрыі ў Беларусі **Алаіза Вёргетэр**, жыхары Вілейкі.

– У Аўстрыі мы ўзрушаныя бесчалавечнасцю і беззаконнем, якое абрывала жыцці вашых і нашых людзей. Дзесяць тысяч аўстрыйскіх яўрэяў забілі ў Мінску.

Падчас Другой сусветнай вайны Вілейка, як і Вена, згубіла ўсю яўрэйскую абшчыну.

> Перажыванні тых трагічных падзей аб'ядноўваюць нас, – адзначыла пасол.

### Працавалі гісторыкі з чатырох краін

Яе падтрымаў старшыня дырэкцыі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Раў **Віктар Балакіраў:**

– Над выставай працавалі гісторыкі з чатырох краін: Беларусі, Чэхіі, Аўстрыі і Германіі. Было няпроста прыйсці да агульнага сцэнара, бо ў кожнага народа – сваё разуменне вайны, розныя культуры памяці. І ўсё ж яны зрабілі гэта.

Па словах Віктара Балакірава, ёсць і нямецкамоўны адпаведнік выставы, які падарожнічае па краінах Заходняй Еўропы.

### Прыгадалі, як вілейчукі ратавалі яўрэяў

Галоўны архітэктар майстэрні імя Леаніда Левіна **Галіна Левіна**, якая працавала над выставай, назвала яе момантам ісціны.

На думку архітэктара, каб ушанаваць памяць пра такую маштабную трагедыю чалавецтва – нельга было проста зрабіць шыльдачку.

На адкрыцці мясцовыя жыхары прыгадалі, як падчас вайны вілейчукі, рызыкуючы жыццём сваіх сямей, хавалі яўрэяў.

Недалёка ад Вілейкі, у Тураўшчыне, сям'я схавала 17-гадовую яўрэйскую дзяўчыну. Аднак у хуткім часе нехта паведаміў пра гэта фашыстам. Тыя расстралялі і дзяўчыну, і сям'ю.

Мясцовая жыхарка (злева) распавядае Віктару Балакіраву і Алаізе Вёргетэр, як падчас вайны была ў нямецкіх лагерах.

Напрыканцы экскурсавод **Аляксандр Далгоўскі** правёў экскурсію для прысутных

Паглядзець выставу можна будзе да 18 кастрычніка ў выставачнай зале Вілейскага краязнаўчага музея.

Выстава «Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць» – вынік міжнароднага дыялога з удзелам гісторыкаў з Беларусі, Германіі, Аўстрыі і Чэхіі, які пачаўся ў жніўні 2014 года.

Арганізатарамі выставы выступілі Міжнародны адукацыйны цэнтр з Дортмунда, Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр імя Ёханэса Раў і фонд «Мемарыял памяці забітых яўрэяў Еўропы».

**У ваколіцах вёскі Малы Трасцянец, уключанай сёння ў рысу Мінска, ад вясны 1942 года да лета 1944-га існаваў найбуйнейшы лагер смерці на акупаванай тэрыторыі Савецкага Саюза.**

Паводле ацэнкі, зробленай Надзвычайнай дзяржаўнай камісіяй у жніўні 1944 года, колькасць ахвяр склала 206 500 чалавек.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# «Сяляне сумавалі не па Польшчы, а па сваёй зямлі»

## Сідарэвіч ясна і проста тлумачыць, што трэба ведаць пра 17 Верасня

**80 гадоў таму адбылося аб'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі. Пра падзею мы пагутарылі з гісторыкам Анатолем Сідарэвічам.**

**«Наша Ніва»: Як так сталася, што Беларусь аказалася падзеленай між Расіяй і Польшчай?**

**Анатоль Сідарэвіч**: Грунтоўную гісторыю падзелаў Беларусі яшчэ ніхто не напісаў. Беларускія землі дзялілі кайзер і Літва, кайзер і Украіна (1918). У 1919 годзе тры губерні сабе адарвала бальшавіцкая Расія. Потым яна дзяліла нашы землі з Літвой і Латвіяй (1920), а таксама з Польшчай (1921).

У 1923 годзе новыя ўсходнія межы Польшчы асвяцілі сваім рашэннем амбасадары Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі і Японіі. Праўда, і Беларусі шэсць няпоўных паветаў Мінскай губерні ды дробныя часткі Вілейскага павета Віленскай губерні.

**«НН»: Як жылося простым беларусам пры польскай уладзе? Сапраўды, дзверы кілбасой падвязвалі?**

**АС**: І блінцы на тры бакі маслам мазалі… А калі адкінуць жарты, успамінаецца сустрэча ў 2011 годзе з апошнімі жыхаркамі вёскі Забярэззе Пінскага раёна. Гэта спецыфічная вёска, колішні фальварак, частка маёнтка Ежы Асмалоўскага, таго самага Асмалоўскага, які ў 1919–1920 гадах стаяў на чале польскай акупацыйнай улады ў Беларусі, быў генеральным камісарам цывільнай управы ўсходніх земляў. Работнікамі ў фальварку былі рыма-каталікі, якія прыехалі ці не з Віленшчыны. І вось удовы гэтых каталікоў, калі гаворка зайшла пра «польскі час», сказалі мне і лінгвісту Юрыю Чарнякевічу: нічога добрага ад іх, палякаў, мы не бачылі.

Не думаю, што значна лепш было ў іншых мясцовасцях Заходняй Беларусі. Беззямелле, малазямелле, шматлікія падаткі, штрафы… Грошы з Заходняй Беларусі ішлі на разбудову метраполіі, на ўтрыманне не малога, але тэхнічна адсталага войска і ўтрыманне на захопленых землях велізарнага адміністрацыйнага і карнага апарату. Ну, і на польскія школы, якія разглядаліся як сродак асіміляцыі нашага народа.

Я быў бы неаб'ектыўны, калі б сказаў, што не было настальгіі па «польскім часе». Трапіўшы ў калгасны прыгон, мае землякі сумавалі не так па Польшчы з Пілсудскім і Масціцкім, як па тым часе, калі яны мелі сваю зямлю і былі гаспадарамі на ёй.

Пасля таго, як Мікіта Хрушчоў увёў гарантаваную аплату працы ў калгасах і пенсіі для калгаснікаў, настальгія выпарылася і з'явіліся жарты пра дзверы, завязаныя кілбасой, і блінцы, на тры бакі мазаныя. Маладыя падсмейваліся са старых. Адбылася саветызацыя майго пакалення заходніх беларусаў.

**«НН»: А як жылося тым беларусам, якія адстойвалі сваю беларускасць? Ці была Польшча рэпрэсіўнай дзяржавай у дачыненні да беларускіх палітычных дзеячаў?**

**АС**: Былі ў Польшчы такія дзеячы, як Вінцэнты Вітас і Войцех Карфанты. Першы з іх займаў пасаду прэм'ер-міністра ад ліпеня 1920-га да верасня 1921-га – у час, калі бальшавікі ішлі на Варшаву, калі іх з французскай і амерыканскай дапамогай ад Варшавы адкінулі да Мінска, калі быў падпісаны Рыжскі трактат… Карфанты – таксама адзін з айцоў Польскай Рэспублікі. Ён увайшоў у гісторыю як той, хто хацеў далучыць Сілезію да Польшчы, і нямала дзеля гэтага рабіў. У другім кабінеце Вітаса ён быў віцэ-прэм'ерам. І вось пілсудчыкі абодвух іх кінулі ў Брэсцкую крэпасць, мякка кажучы, зняважалі там, а потым стварылі ім такі рэжым, што яны мусілі выехаць за мяжу. Скажыце, як маглі пачуваць, прыкладам, Антон Луцкевіч і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі ў той дзяржаве, у якой няўтульна пачуваліся нават яе айцы?

З вядомых мне заходнебеларускіх літаратараў, якія выступалі ў друку, больш за палавіну прайшлі праз польскія турмы. Сімвалам санацыйнага рэжыму ў Заходняй Беларусі стаў канцлагер у Картуз-Бярозе.

**«НН»: Хто дамагаўся аб'яднання земляў? Хто бачыў будучыню беларусаў у складзе Польшчы?**

**АС**: Дэнацыяналізаваныя беларусы, каталікі, хацелі жыць у польскай дзяржаве. Дэнацыяналізаваныя праваслаўныя марылі аб Расіі.




Аб'яднання беларускіх земляў жадалі камуністы. Ведаючы пра тэрарыстычны бальшавіцкі рэжым, але з увагі на тое, што ў БССР усё ж мелася густая сетка беларускіх школ і практычна ўсе раённыя ды абласныя газеты выходзілі па-беларуску, хацелі і іншыя левыя. Бальшавізм – гэта часова, а Беларусь – навекі, казалі яны.

**«НН»: Перамагла гістарычная справядлівасць, калі беларускія землі былі ўз'яднаныя?**

**АС**: У верасні 1939-га адбылося тое, пра што польскі палітычны клас папярэджвалі ў першыя ж гады пасля аднаўлення польскай дзяржавы. Каб не стаць ахвярай расійска-германскай змовы, Польшчы трэба было згуртаваць вакол сябе альянс новых незалежных дзяржаў: Беларусі, Латвіі, Літвы, Украіны, Чэхаславакіі. Наладзіць федэратыўныя сувязі з усходнімі суседзямі палякам раілі і брытанскія палітыкі. З планам федэрацыі насіўся і адзін з лідараў Польскай сацыялістычнай партыі Мечыслаў Недзялкоўскі, але шавіністычныя і вялікадзяржаўныя тэндэнцыі ўзялі верх. Аграрная краіна, сялянская нацыя хацелі дасягнуць немагчымага.

Праўда, не сама, а ў апоры на Францыю, якая і ў франка-прускую (1870), і ў Першую сусветную вайну паказала сваю нядольнасць супрацьстаяць Нямеччыне. Ад сваіх вялікадзяржаўных амбіцый Польшча не ўстрымалася і тады, калі полымя сусветнай вайны перакідвалася з Афрыкі (Эфіопія) і Азіі (японa-кітайская вайна) у Еўропу. Перад тым, як стаць ахвярай нямецкай агрэсіі, сама Польшча выступіла ў якасці агрэсара. Нельга забываць, што ў той час, як Нямеччына ўвяла войскі ў Судэцкую вобласць, у іншую чэхаславацкую вобласць, Цешынскую, увайшло Войска Польскае.

**«НН»: У межах БССР беларусы займелі пэўныя атрыбуты дзяржаўнасці. Ці магло такое быць у складзе Польшчы?**

**АС**: Не магло. Сам праект Польскай Рэспублікі быў у пэўнай меры рэваншысцкім.

Самыя смелыя казалі пра польскую дзяржаву ад мора да мора, пра межы 1772 года. Яны хацелі рэалізаваць тое, што не ўдалося здзейсніць у канцы 18 стагоддзя – пабудаваць польскую ўнітарную дзяржаву на ўсім абшары былой Рэчы Паспалітай. Нездарма ж яны ўзвялі ў культ Канстытуцыю 3 мая 1791 года, якая ліквідоўвала федэрацыю Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

**«НН»: Працаўнікі даты 17 верасня кажуць пра шматлікія ахвяры ў выніку тых падзей. Дык мо, людскія жыцці важнейшыя за інтарэсы дзяржавы?**

**АС**: А што кажуць літоўцы, якія ў кастрычніку 1939 года атрымалі ад Масквы ў падарунак згаворлівасць Вільню? А згаварыліся наконт чаго? Мы вам Вільню, а вы прымеце наш абмежаваны кантынгент.

Цяпер клянуць саветы за 1940 год, за страту незалежнасці, за шматлікія ахвяры. За ўсё трэба плаціць. За Вільню, Салечнікі, Свянцяны, Меднікі і Друскенікі. Такі няўмольны закон гісторыі. Беларусы таксама заплацілі крывёю, потам і слязьмі за тое, каб Беларусь прасціралася калі не ад Беластока да Смаленска, не ад Вільні да Старадуба, дык хоць бы ў цяперашніх межах. Беларускія костачкі ляжаць ад канцлагера Кракаў-Домбе да канцлагераў на Калыме.

**«НН»: Калі мы ўважаем 17 верасня за пазітыўную дату ў гісторыі Беларусі, дык, можа, тады і на асобу Сталіна праз прызму тых падзей варта зірнуць па-іншаму?**

**АС**: Сталін вырашаў беларускае пытанне, як казалі бальшавікі, «попутно». У яго была іншая мэта – павелічэнне колькасці савецкіх рэспублік, як было сказана ў сакавіку 1939-га на 18 з'ездзе бальшавіцкай партыі. Вы ведаеце, што нацысты арганізавалі паездку былых сацыял-дэмакратаў і камуністаў на заваяваную тэрыторыю СССР, каб паказаць, як жывуць людзі ў краіне «пераможнага сацыялізму»: драўляныя хаціны, саламяныя стрэхі, лапці і ўсё такое іншае? Вы ведаеце, што Генрых Бёль паправеў, калі трапіў на Усходні фронт і паглядзеў, як жылі савецкія людзі? Рэакцыянеры Сталін і Гітлер ані не ставілі за мэту дабро Беларусі і Украіны, але сам ход падзей змусіў іх зрабіць для нашых народаў карысную справу.

**«НН»: Чаму беларускія ўлады не адзначаюць 80-годдзе ўз'яднання?**

**АС**: Не ведаю. З гэтым пытаннем трэба звяртацца ў дом №38 па вуліцы Карла Маркса ці ў так званы Палац Незалежнасці. Сам жа дзень 17 верасня я не называў бы днём уз'яднання, бо не было беларускай акцыі ні з усходняга, ні з заходняга боку рыжскай мяжы. 17 верасня правільней называць Днём аб'яднання беларускіх земляў.

**«НН»: Ці трэба беларусам у будучыні святкаваць 17 Верасня?**

**АС**: Трэба. З успамінам пра людскія ахвяры, з успамінам пра тое, што ў складзе нашай краіны так і не замацаваліся беларускія землі на захадзе і паўночным захадзе. З разуменнем таго, што ў нас забралі частку нашых земляў на ўсходзе. І з усведамленнем таго, што гісторыю не перапішаш, што Беларусь яшчэ і цяпер не цалкам суб'ект міжнародных адносін.

І такое. Бадай, у кожным заходнебеларускім горадзе або мястэчку, былым райцэнтры, ёсць вуліца 17 Верасня. Ва Усходняй Беларусі вуліц з такімі назвамі я не сустракаў. А варта было б уганараваць 17 Верасня ў назвах вуліц і плошчаў і ва Усходняй Беларусі. Што ні кажы, гэты дзень для Беларусі гістарычны, памятны.

**Гутарыў Зміцер ПАНКАВЕЦ, «Наша ніва».**




Прафесія кіроўцы – адна з самых запатрабаваных.

# Што ў рэгіёне з беспрацоўем

**Якая сітуацыя на рынку працы ў раёнах Павілля, мы высветлілі з бюлетэня «Сацыяльна-эканамічнае развіццё рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь» Нацыянальнага статыстычнага камітэта за студзень-ліпень.**

Параўнаем сітуацыю на рынку працы за паўгода сёлета і ў 2018 годзе.

### Маладзечна

Калі летась на Маладзечаншчыне было 287 зарэгістраваных беспрацоўных, то ў гэтым годзе 126. Так узровень беспрацоўя з 0,5 знізіўся да 0,2.

На нанова створаныя рабочыя месцы ўладкавалі 382 чалавек, а летась – 454.

### Вілейка

Зарэгістраваных беспрацоўных на Вілейшчыне за сёлетнія паўгода 41 чалавек, летась – 64. Узровень беспрацоўя знізіўся з 0,4 да 0,2 працэнта.

На наваствораныя працоўныя месцы летась уладкавалі 61 чалавека, а ў гэтым годзе 57.

### Валожын

У Валожынскім раёне беспрацоўных за першыя паўгода 2018 года было 35, а сёлета – 23. Узровень беспрацоўя знізіўся з 0,3 да 0,2 працэнта.

Летась уладкавалі 71 чалавека на нанова створаныя рабочыя месцы, у гэтым годзе 48.

### Мядзел

Беспрацоўных у Мядзельскім раёне летась за паўгода зарэгістравалі 50 чалавек, сёлета 32. Калі ў 2018 беспрацоўе склала 0,4 працэнта, то сёлета – 0,3.

Сёлета ўладкавалі 53 чалавекі на нанова створаныя працоўныя месцы, у мінулым годзе – 30 чалавек.

### Смаргонь

За паўгода 2018 на Смаргоншчыне зарэгістравалі 113 беспрацоўных, за паўгода сёлета – на двух чалавек меней.

**Беспрацоўе засталося на тым жа ўзроўні – 0,5%.**

На наноў створаныя працоўныя месцы ў мінулым годзе за паўгоддзе ўладкавалі 111 чалавек, у гэтым – 110.

### Ашмяны

Беспрацоўных у Ашмянскім раёне за шэсць месяцаў 2018 года зарэгістравалі 63 чалавекі, 2019 года – 55 чалавек. Узровень беспрацоўя знізіўся з 0,5 да 0,4.

Летась уладкавалі 34 чалавекі на новыя працоўныя месцы, у гэтым годзе – 75.

### Астравец

Летась за паўгода беспрацоўных было 39, сёлета – 20 чалавек. Узровень беспрацоўя знізіўся з 0,3 да 0,2 працэнта.

На новыя рабочыя месцы ўладкавалі 163 і 11 чалавек за паўгода 2018 і 2019 гадоў адпаведна.

### Як змянілася сітуацыя па краіне

Як паведамляе Міністэрства працы, сёлета за паўгода па краіне звярнулася 96 тысяч чалавек па дапамогу ў працаўладкаванні, сярод іх больш за 50 тысяч чалавек зарэгістраваныя як беспрацоўныя.

Узровень зарэгістраванага беспрацоўя знізіўся з 0,4 да 0,3 працэнта ў адносінах да колькасці працоўнай сілы.

Мінпрацы адзначае попыт на працоўную сілу. За паўгода 2019 у органы па працы прыйшло на 17 працэнтаў больш вакансій, чым за такі ж перыяд мінулага года.

**Запатрабаванасць у прадстаўніках рабочых прафесій склала больш за 64 працэнты ад агульнай колькасці прапаноў.**

Агулам за паўгода 2019 колькасць беспрацоўных меншая на 30 працэнтаў, чым за такі ж перыяд 2018 года.

### Хто сярод беспрацоўных

Найбольшая група сярод беспрацоўных – мужчыны 45-49 гадоў. За імі – мужчыны 40-44 гадоў, на трэцяй пазіцыі група мужчын 55-57 год.

**Сярод жанчын найбольш беспрацоўныя групы – 45-49 год, 35-39 год, 40-44 гады.**

Агулам сярод беспрацоўных за паўгода 2019 66 працэнтаў мужчын, 19,7 працэнта моладзі ад 16 да 30 год.

Сярэдні перыяд працаўладкавання складае 1,4 месяца. А сярэдняя працягласць беспрацоўя па краіне – тры месяцы.

### Каго шукаюць

У першым паўгоддзі ў горадзе самымі запатрабаванымі вакансіямі сярод рабочых прафесій былі: кіроўца аўтамабіля, прадавец, швачка, повар, муляр, тынкоўшчык, кантралёр-касір, электраманцёр, электрагазазваршчык, маляр.

**Сярод спецыялістаў найбольш шукалі доктара, медсястру, фельчара, інжынера, бухгалтара, ветэрынара, майстра, выхавальніка, спартсмена-інструктара, фармацэўта.**

У вёсцы сярод рабочых прафесій было найбольш вакансій трактарыста, кіроўцы, аператара машыннага даення, жывёлавода, муляра, электраманцёра, электрагазазваршчыка, мантажніка, повара, арматуршчыка.

Сярод спецыялістаў на вёсцы найбольш запатрабаванымі былі ветэрынарны доктар, медсястра, заатэхнік, доктар-спецыяліст, бухгалтар, аграном, інжынер, брыгадзір, педагог-псіхолаг, менеджар.

### Дзе напружанасць з працай

Сярод тэрыторый з напружанай сітуацыяй на рынку працы на гэты год ёсць раёны з нашага рэгіёна. Гэта Вілейскі, Валожынскі, Маладзечанскі.

**Паводле Белстата, Мінпрацы.**

# Крыжаванка
## ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Абход для агляду, разведкі.
3. Уладзімір Някляеў: «Цемра сьціснула … . Спаць пара, але ня сьпіцца. Прыгадалася ў бальніцы Ноч, мінулая даўно».
7. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
8. Ужыванне слова або выразу ў пераносным значэнні, заснаванае на падабенстве або параўнанні.
9. Развіццё, працэс павольнага, паступовага змянення ў прыродзе і грамадстве ў адрозненне ад рэвалюцыі.
10. Гэты від спорту з'явіўся на Гаваях. Але для мясцовых жыхароў гэта была не забава, а частка рэлігійнага рытуалу.
11. Каштоўнае перламутравае рэчыва, якое мае форму зярнят і шарыкаў белага, ружовага, жоўтага, радзей чорнага колеру і здабываецца з ракавін некаторых малюскаў.
12. Сваякі.
15. Асобая форма руху матэрыі, якая ўзнікла на пэўным этапе яе развіцця і прадстаўленая вялікай колькасцю асобных арганізмаў.
16. Адзін рух пэндзля пры накладанні фарбы, а таксама слой фарбы, накладзены такім способам.
20. Павадыр статка, чарады.
21. Колючая частка органа самаабароны і нападу некаторых насякомых.
22. Дзейная сіла, спалучаная з настойлівасцю ў дасягненні пастаўленай мэты.
26. Напоўнены піратэхнічнай сумессю снарад, які пасля выстралу ярка свеціцца ў паветры і ўжываецца для феерверкаў і светлавых сігналаў.
29. Адзінае ў свеце мора без берагоў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Абранне шляхам галасавання дэпутатаў у прадстаўнічы орган дзяржавы, службовых асоб, членаў арганізацыі.
4. Рэчыва, якое змяняе хуткасць хімічнай рэакцыі, але колькасна не расходуецца і ў склад прадуктаў не ўваходзіць.
5. Герб гэтага населенага пункта Смаргонскага раёна – залаты паўмесяц у блакітным полі. А паміж яго рагамі – срэбраная зорка. Ужывалі да канца 18 стагоддзя.
6. Комплекс касметычных працэдур, звязаных з упрыгожаннем твару памадай, пудрай.
8. Белая пажыўная вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі.
9. Ашчаднасць, беражлівасць пры расходаванні.
13. Момант найвышэйшага напружання.
14. Нешта незвычайнае, тое, што выклікае здзіўленне.
16. Нервовая хвароба, пры якой боль, у асноўным, паражае адну палавіну галавы.
17. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
18. Пасудзіна, у якую дояць малако.
19. Два рады дамоў і прастора паміж імі для праходу і праезду, а таксама сама гэта прастора.
21. Усё станоўчае.
23. Лекар.
24. Які мае фізічную сілу; вельмі дужы, здаровы.
25. Драматычны вобраз, які ўвасабляецца акцёрам на сцэне, у кінафільме.
27. Чым, па сутнасці, з'яўляецца Віфлеемская зорка?
28. Быць у нерашучасці, адчуваць няўпэўненасць; сумнявацца.

## Адказы на крыжаванку з №37

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Валакіта. 4. Слёзы. 7. Лынтупы. 8. Аспірын. 9. Леапард. 12. Венік. 13. Варта. 14. Мезаліт. 17. Восень. 20. Гідра. 21. Афіша. 22. Роздум. 23. Аўкцыён. 25. Ясак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Піраты. 3. Лесвіца. 5. Ланцуг. 6. Вайна. 7. Лакатар. 10. Лімон. 11. Разнос. 12. Відэлец. 15. Аркестр. 16. Развод. 18. Радок. 19. Рамантык. 20. Галіна. 24. Ашыйнік.



## ГАРАСКОП на 20-26 ВЕРАСНЯ

**АВЕН**. Спрыяльныя дні. У вас будзе шанец зрабіць шмат карыснага для сябе і навакольных, вы яго не ўпусціце. Магчымы і пачатак рамантычных адносін.

**ЦЯЛЕЦ**. Вы на многіх ствараеце добрае ўражанне, часта падабаецеся людзям, якія вельмі патрабавальныя да ўсіх вакол. Можна абмяркоўваць планы на будучыню, дамаўляцца аб сумесных дзеяннях.

**БЛІЗНЯТЫ**. Не ўсё даецца лёгка, але вы не з тых, каго перашкоды і праблемы прымушаюць адмовіцца ад задуманага. Вы праяўляеце рэдкую ўпартасць і дамагаецеся свайго нават там, дзе іншыя махнулі б на ўсё рукой.

**РАК**. Смела выбірайце справу па душы: амаль усё ў вас атрымлівацца добра. Можна дамаўляцца аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве, не выключана, што вам прапануюць нешта цікавае.

**ЛЕЎ**. Абставіны складваюцца ўдала, вы можаце завяршыць справы, пачатыя раней, атрымаць адказы на нейкія важныя пытанні. Не выключана, што давядзецца адправіцца ў паездку.

**ДЗЕВА**. Даволі складаны перыяд. Падзеі развіваюцца павольна, і вы нервуецеся – незразумела, з чым звязаныя шматлікія затрымкі, бо вы іх зусім не чакалі. Будзьце гатовыя даць адпор ворагам.

**ШАЛІ**. Пачатак тыдня будзе цікавы і натхняльны. Верагодныя дзіўныя супадзенні, незвычайныя сустрэчы. Дзякуючы ім вы па-новаму глянеце на тое, што перш лічылі правільным.

**СКАРПІЁН**. Гэта добры час для таго, каб узяцца за нейкую зусім новую справу. Магчыма, не ўсё адразу атрымаецца добра, але вы хутка разберацеся ў сітуацыі і шмат чаму навучыцеся.

**СТРАЛЕЦ**. Большая частка дзён складзецца ўдала. Першая яго палова будзе вельмі плённай. Яна падыходзіць для таго, каб заняцца складанымі справамі, паспрабаваць завяршыць нейкі праект.

**КАЗЯРОГ**. Галавакружнымі поспехамі перыяд наўрад ці адзначыцца, але вы не станеце скардзіцца. Не цяжка будзе справіцца са справамі, ды і з рашэннем новых задач не ўзнікне праблем. Будзьце цярплівыя: яшчэ не наступіў зручны момант для нейкіх рашучых дзеянняў.

**ВАДАЛЕЙ**. Магчымыя дробныя непаразуменні, затрымкі ў справах і цяжкасці ў зносінах. Перыяд будзе даволі клапатлівы, але не прынясе сур'ёзных праблем. Ён добра падыходзіць для таго, каб узяцца за нешта новае.

**РЫБЫ**. Важна не паддавацца на правакацыі. У цэлым дні не такія ўжо і дрэнныя, але для таго, каб выбраць правільны шлях, трэба захоўваць самавалоданне. Сябры часам даюць выдатныя парады.

**Васіліна КІРАВА.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | | | 5 | 2 | 8 | |
| 3 | | | | 1 | | 5 | | |
| 2 | | | 6 | | | 1 | | 4 |
| | | 2 | | | | 7 | | |
| | 6 | | 5 | 8 | | | | |
| 5 | | 7 | | | | 9 | | 8 |
| | | | | 3 | 4 | 6 | | 9 |
| 6 | | | | | | 4 | 1 | |
| 4 | | 3 | | | | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by





## Чытайце праз тыдзень:

- **Як зладзіць вяселле ў беларускім стылі, каб усе госці былі ў захапленні, а на фотаздымках маладыя ззялі ад шчасця? І каб сведкам быў беларускі пісьменнік Андрэй Горват. Пра тое, як арганізавалі і справілі этнічнае вяселле, чытайце праз тыдзень.**

## 21 верасня, субота

**Вецер:** заходні, 5-6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +1,4°С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +26,6°С у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18,6 мм у 2004 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці памятаеце вы, як першы раз прызналіся ў каханні?



**Наталля Лемеш, бухгалтар, Маладзечна:**
– Сорамна, але я не памятаю, як гэта было.



**Валерыя Бажко, гаспадыня, Маладзечна:**
– Гэта адзін з самых хвалюючых і трапяткіх момантаў у маім жыцці. Маім першым і сапраўдным каханнем стаў мой муж.



**Дзяніс Валавік, фатограф, Астравец:**
– Гэта было непаўторна і незабыўна ў 2010-м годзе. Але, на жаль, не лёс.



**Кацярына Лукша, педагог, Смаргонь:**
– Прызналася свайму будучаму мужу. Доўгі час збіралася і рыхтавалася, каб сказаць. Мы разам глядзелі кіно. І менавіта ў гэты самы момант ён пачаў засынаць, але было цёмна, я гэтага не бачыла. І вось з усёй упэўненасцю і сіламі я выпальваю запаветныя словы, а ён у адказ: «Ааа, ага».



**Таццяна Ляскоўская, настаўніца, Смаргонь:**
– Як я гэта рабіла, дакладна не памятаю. Але памятаю, як першы раз прызналіся мне. Мне было гадоў 6. Хлопчык быў на год за мяне старэйшы. Ён шпурнуў у мяне камень і, уцякаючы, крычаў: «А я цябе кахаю». Добра, што камень маленькі быў!



**Ірына Грынкевіч, настаўніца, Маладзечна:**
– Я проста так не кажу гэтыя словы. А вось першы раз прызналася ў 16 гадоў: першае каханне і ўсе справы.



**Марына Дубавік, прадавец, Маладзечна:**
– Добры раз, але я яго не памятаю, шчыра кажучы.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1273) 20.09.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1519. Падпісана ў друк у 9.00 19.09.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.